Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 12 (4863) 25 сакавіка 2016 г.



# «Чалавеку зручна жыць у прасторы, дзе ёсць гісторыя»


Фота Віктара Аскера.

Сяргей і Леў Гумілеўскія побач са скульптурай Кастуся Каліноўскага.

**Бацька і сын Гумілеўскія, здаецца, вельмі падобныя прынцыпамі як у жыцці, так і ў мастацтве, захавалі кожны аўтарскі почырк і індывідуальны стыль. Леў і Сяргей Гумілеўскія стварылі мноства арыгінальных і важных праектаў, уклалі ў іх душу і падарылі беларускаму народу кавалачкі роднай гісторыі, раскінутыя па краіне. З чытачамі «ЛіМа» творцы падзяліліся думкамі наконт мастацтва:**

**— Леў Мікалаевіч, вы хацелі, каб сын пераняў вашу тэхніку, традыцыі творчасці? Як Сяргей пайшоў па бацькавых слядах?**

— Дзеці рэдка слухаюць бацькоў, як ні тлумач, што добра, а што — не. Мой сын не выключэнне. У скульптуры Сяргей пайшоў сваім шляхам. Але ж менавіта я прыцягнуў яго да мастацтва. Ён бачыў, што я дзень у дзень хаджу ў майстэрню, круглыя суткі ляпіў і не заўважаў падзей, што адбываліся тады ў грамадстве. Я жыў і жыву мастацтвам. Мой працоўны настрой прывабіў яго.

Чытайце на стар. 12

# Драма на ўсе часы

**Лёгка заблытацца ў павуцінні ўласных страхаў, непамерных амбіцый, эгаізму і ганарлівасці. Чалавек не ідэальны. Але гэта не значыць, што, учыніўшы памылку аднойчы, трэба працягваць у тым жа духу — руйнаваць усё вакол і ўнутры сябе. Да чаго могуць прывесці спакуслівыя думкі атрымаць карону любымі сродкамі? Прэм'ера оперы «Макбет» прайшла ў Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Панджавідзэ. Рэжысёр застаўся верны Джузэпэ Вердзі — у шпаркасці развіцця сюжэта, напружанасці атмасферы, эмацыянальнай барацьбе герояў. Але пастаноўшчык не шукае глабальных, новых форм выяўлення ідэі, што прагрымела на сусветнай сцэне яшчэ ў канцы XIX стагоддзя. Мінскі «Макбет» атрымаўся класічным, амаль хрэстаматыйным. Тым не менш у оперы шмат цікавых сімвалаў, яна зроблена з разлікам на глыбокае, не павярхоўнае, разуменне. Здзіўляе і нечаканы, ледзь не апакаліптычны, фінал.**

Чытайце на стар. 13


Фота Марыі Войцік.

Сцэна са спектакля «Макбет».

## Пункцірам

✔ Зацверджана дзяржаўная праграма «Культура Беларусі» на 2016 — 2020 гады. Заказчыкам-каардынатарам вызначана Міністэрства культуры. Праграма мае на мэце захаванне гістарычнай памяці беларускага народа, яго нацыянальна-культурнай самабытнасці і традыцый, актыўнае ўключэнне грамадзян Беларусі ў культурнае жыццё краіны, рэалізацыю творчага патэнцыялу нацыі, забеспячэнне якаснага фарміравання, захавання і выкарыстання дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду як часткі інфармацыйнага рэсурсу Беларусі, а таксама садзейнічанне захаванню нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці беларускай дыяспары. Дзяржаўная праграма ўключае падпраграмы «Спадчына», «Мастацтва і творчасць», «Архівы Беларусі» і «Беларусы ў свеце».

✔ Заяўкі на ўдзел у рэспубліканскім конкурсе «Нацыянальная літаратурная прэмія» прымаюцца да 1 ліпеня. Конкурс праводзіцца ў другі раз. Міністэрства інфармацыі як арганізатар праекта запрашае да ўдзелу пісьменнікаў — аўтараў літаратурных твораў, выдадзеных у 2015 годзе. Умова ўдзелу — беларускае грамадзянства або пастаяннае пражыванне на тэрыторыі краіны. Заяўкі могуць падаваць фізічныя асобы — аўтары твораў або іх афіцыйныя прадстаўнікі, а таксама творчыя саюзы, выдавецтвы, рэдакцыі СМІ, арганізацыі культуры, установы адукацыі і навуковыя арганізацыі, якія працуюць у галіне мастацкай літаратуры і літаратуразнаўства. Узнагароды і грашовыя прэміі будуць уручаныя пераможцам 4 верасня ў Рагачове падчас XXIII Дня беларускага пісьменства.

✔ Маладым настаўнікам сярэдніх школ, кадэцкіх карпусоў і сувораўскіх вучылішчаў з Расіі і Беларусі прапануецца паўдзельнічаць у конкурсе «#СілаСлова» на лепшы ўрок па літаратуры, аб'яўленым Пастаянным камітэтам Саюзнай дзяржавы сумесна з міжнародным інфармацыйным агенцтвам «Расія сёння». Заяўкі будуць прымацца да 1 ліпеня. Урачыстае ўзнагароджанне лаўрэатаў пройдзе ў ліпені 2016 года падчас правядзення экспертна-медыйнага семінара. Пераможцам конкурсу будзе ўручаны планшэтны камп'ютар, а фіналістаў чакае спецыяльная экскурсія «Масква літаратурная».

✔ Фотавыстаўка праекта «Спадчына Беларусі» адкрылася ў Міністэрстве замежных спраў. Аўтары праекта, распачатага больш за дзесяць гадоў таму, фотамастакі Аляксандр Аляксееў і Алег Лукашэвіч, дэманструюць гістарычнае і культурнае багацце нашай краіны праз высокамастацкія кнігі-альбомы, фільмы і фотавыстаўкі. Матэрыялы праекта прадстаўлены ў фондах найбуйнейшых бібліятэк свету, ва ўніверсітэтах, культурных і дыпламатычных установах, у калекцыях Папы Рымскага, каралевы Вялікабрытаніі, палітычных і грамадскіх лідараў іншых краін.

✔ На рамесным кірмашы «Гродзенскія традыцыі да свята Вялікадня» публіка пабачыла аўтэнтычныя тэхналогіі вырабу велікодных атрыбутаў, якія ўнесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі ў якасці элемента нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Народныя майстры з пасёлка Сапоцкін Гродзенскага раёна прадставілі традыцыю роспісу велікодных яек, майстры з Гродна — унікальныя гродзенскія «вербы», з Навагрудскага раёна — папяровыя выцінанкі-выбіванкі. Арганізатарамі кірмашу выступілі галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама, абласны метадычны цэнтр народнай творчасці.

## Фестываль

# Сямейны фармат

### Тэатральная навінка — у Салігорску

Маўглі і Маленькі прынц — на адной сцэне. Першы адкрыты фестываль-форум тэатральнага мастацтва «ТЕАТРОН line — 2016» адкрываецца сёння ў Салігорску і працягнецца яшчэ два дні. За такі кароткі тэрмін гледачам прапануецца ажно 10 спектакляў у выкананні маладых калектываў з розных гарадоў Беларусі і Расіі.

Праграма фестывалю даволі насычаная: з пераходамі ад вядомай гледачам класікі да нечаканых аўтарскіх пастановак, ад добрых сямейных саг, аповесцей пра чыстыя пачуцці да… спроб па-філасофску пераасэнсаваць быццё. Праўда, усё ў межах. Ніякага эпатажу і эксперыментаў. Больш традыцый, чым навін. Пляцоўкай для творчасці стала Салігорская дзіцячая школа мастацтваў.

Што да праграмы, то на фестывалі можна ўбачыць, напрыклад, самую прыгожую жанчыну ў горадзе ў праекцыі Чарльза Букоўскага, больш за тое — паспрабаваць зазірнуць у душу пісьменніка дзякуючы монаспектаклю-споведзі. Гэтая пастаноўка амаль адзіная для дарослых. «ТЕАТРОН *line* — 2016» — атмасфера ў першую чаргу для дзяцей: шмат казачнага, утульнага, добрага. Большасць спектакляў разлічана на сямейныя прагляды — у стылістыцы Кіплінга, Экзюперы ці ўвогуле савецкіх мультфільмаў.

**Марыя ВОЙЦІК**

## Да ведама

# Зрабі свой унёсак!

Конкурс артыкулаў пра краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы «ВікіВясна» ладзіцца ў Вікіпедыі з 21 сакавіка да 25 мая 2016 года. Ідэя — пашырыць інфармацыю пра краіны рэгіёна, прыцягнуць увагу да іх асаблівасцей і ўзмацніць супрацоўніцтва паміж рознымі моўнымі раздзеламі «свабоднай энцыклапедыі».

На працягу трох месяцаў удзельнікі з розных краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ствараюць артыкулы пра сваіх суседзяў. Не застаўся ўбаку і беларускі раздзел Вікіпедыі. Найбольш актыўны ўдзельнік конкурсу атрымае прыз ад маладзёжнага аб'яднання «Фаланстэр» — ініцыятара праекта «Вікіфікацыя», скіраванага на развіццё беларускай Вікіпедыі. Усе ахвочыя могуць звяртацца па дапамогу да валанцёраў «Фаланстэра», якія гатовыя садзейнічаць па пытаннях працы з Вікіпедыяй і вікіразметкай.

Для ўдзелу ў конкурсе трэба дадацца ў табліцу ўдзельнікаў. Тэмы артыкулаў — любыя датычна той ці іншай краіны, але кожны моўны раздзел прапаноўвае самыя актуальныя звесткі пра сваю краіну.

На працягу чэрвеня будуць падводзіцца вынікі і вызначацца пераможцы ў кожным моўным раздзеле. Напрыканцы ліпеня адбудзецца ВікіЛетнік для самых актыўных удзельнікаў.

**Магда ПАСКЕВІЧ**

## Ініцыятыва

# Вучыцца на літаратараў



Фота Кастуся Дробава.

Падчас заняткаў у школе «Са-творчасць».

Вочна-завочная школа для дзяцей «Са-творчасць» працуе пры Мінскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. На першыя заняткі ў Мінску сабраліся дзеці з розных раёнаў вобласці, якія з задавальненнем пішуць не толькі школьныя сачыненні, але і выказваюць свае думкі ў вершаванай ці празаічнай форме.

Шукаць вобраз, зачапіць эмоцыяй іх будуць вучыць падчас сустрэч, якія запланаваны на ўвесь год падчас канікул. Вясной пачалі, а далей заняткі будуць працягвацца летам, восенню і зімой. Таму што, калі ёсць жаданне выказаць нешта сваё, яно прыходзіць незалежна ад пары года і рэгламенту школьнай праграмы. Школа неабавязкова для тых, хто збіраецца далей стаць літаратарам (хоць і гэта не выключаецца і нават заахвочваецца). Прафесія ў жыцці можа быць рознай, але калі чалавеку дадзена пісаць, ён можа рабіць гэта і проста для сябе, для сваіх блізкіх ці сяброў.

На першыя заняткі школьнікі ўжо прыехалі з творамі і не баяліся іх зачытваць. Гэта таксама цудоўны момант для навучання: менавіта тое, што напісана, разбіраецца на занятках, даюцца парады, адзнакі, дзе і што ўдасканаліць. Акрамя таго, у школе можна набыць і канкрэтныя веды пра розныя літаратурныя жанры, асновы творчага майстэрства. Майстар-класы праводзяць літаратары Міншчыны. Запланаваныя сустрэчы з Генадзем Аўласенкам, Кацярынай Хадасевіч-Лісавой, Валянцінай Гіруць-Русакевіч і іншымі пісьменнікамі і паэтамі. Цягам усяго года юныя аўтары змогуць прапанаваць свае творы нават для друку: на сайце Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі ёсць старонка пад назвай «Са-творчасць».

**Марыя АСІПЕНКА**

## У пісьменніцкім асяродку

# Пра майстроў і юбіляраў

У межах Года культуры Каладзішчанская сельская бібліятэка № 1 філіяла Мінскай раённай цэнтральнай бібліятэкі правяла тыдзень беларускай і рускай мовы і літаратуры для вучняў старэйшых класаў Каладзішчанскай сярэдняй школы. Як паведаміла рэдакцыі «ЛіМа» супрацоўніца Мінскай раённай цэнтральнай бібліятэкі Святлана Коўзелева, з гэтай нагоды адбыліся літаратурна-музычная сустрэча з паэтам і кампазітарам, лаўрэатам рэспубліканскіх ды міжнародных конкурсаў, фестываляў аўтарскай песні Аляксеем Нежаўцом і сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза журналістаў Зіновіем Прыгодзічам. Падчас сустрэч гучалі песні і вершы. Сваімі творчымі пошукамі дзялілася і моладзь.

Год культуры багаты на пісьменніцкія юбілеі. З гэтай нагоды ў цэнтральнай бібліятэцы імя А. С. Пушкіна горада Мазыра адкрыўся літаратурны вернісаж «Майстры пяра», прысвечаны беларускім творцам-юбілярам. Рэдакцыі «ЛіМа» пра гэта распавяла метадыст аддзела бібліятэчнага маркетынгу Галіна Сень. У экспазіцыі можна сустрэць прадстаўнікоў розных эпох: Івана Мележа і Міхася Чарота, Цётку і Янку Лучыну ды шмат каго яшчэ. Побач з партрэтам кожнага змешчана невялікая біяграфічная даведка і цікавыя звесткі пра творчасць.

Новы зборнік сваіх вершаў у перакладах на рускую мову «Цеплыня рамонкавай мяцеліцы» («Тепло ромашковой метели») прадставіў у Доме Масквы старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Перакладчыкі, якія ўвайшлі ў кнігу, прадставілі паэты Валянціна Паліканіна, Лізавета Палеес, Мікола Шабовіч. Прысвечаныя творцу ўласныя радкі, а таксама верш Міхася Пазнякова ў перакладзе свайго бацькі Браніслава Спрынчана прадэкламаваў паэт Вадзім Спрынчан. Вершы ў перакладзе паэта, галоўнага рэдактара часопіса «Новая Немига литературная» Анатоля Аўруціна прачытала артыстка Маладзёжнага тэатра эстрады Вольга Багушынская. Прагучалі і песні на вершы творцы ў выкананні артыста беларускай эстрады Сяргея Краўца.

Юбілей Кандрата Крапівы адзначылі ў сярэдняй школе № 2 горада Узды, якая носіць імя гэтага класіка айчыннай літаратуры. У сустрэчы ўзялі ўдзел пісьменнікі Васіль Шырко, Віктар Сабалеўскі, Таццяна Цехнябедзіна, сябар уздзенскага літаратурнага аб'яднання «Нёманец» Тамара Каляда. Пра гэта рэдакцыя «ЛіМа» даведалася ад Ліаны Тападзе, кіраўніка літаб'яднання «Творчая лабараторыя», што дзейнічае на базе школы.

Тут, у аднаўленым музеі Кандрата Крапівы, адбыліся Крапівінскія чытанні, падчас якіх вучні распавядалі пра жыццёвы і творчы шлях класіка айчыннай літаратуры. Пра свае сустрэчы з Кандратам Крапівой распавёў Васіль Шырко. Госці-літаратары прачыталі ўласныя вершы.

У актавай зале школы разгарнуўся «Крапівінскі кірмаш» з інсцэніроўкай баек пісьменніка ў выкананні юных акцёраў школьнага тэатра-студыі «Вітамін» пад кіраўніцтвам Марыны Шыцікавай.

Бадай, ніводная навучальная ўстанова не рыхтуе спецыялістаў такога шырокага кола прафесій, што маюць непасрэднае дачыненне да кнігі, як Мінскі дзяржаўны паліграфічны каледж. Спектр прафесійнай дзейнасці — ад падрыхтоўкі і выдання кніг да рэалізацыі друкаванай прадукцыі. Таму невыпадкова тут надаецца вялікая ўвага літаратуры. Напярэдадні Сусветнага дня паэзіі ў Мінскую цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Янкі Купалы разам з пісьменнікам Анатолем Зэкавым завіталі навучэнцы каледжа. Сталічным старшакласнікам і сваім аднакурснікам прадставілі літаратурна-музычную кампазіцыю па вершах айчынных і замежных паэтаў. Падчас імпрэзы гучалі вершы і песні на словы Уільяма Шэкспіра, Мікалая Рубцова, Янкі Купалы, Яўгеніі Янішчыц ды іншых майстроў прыгожага пісьменства.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Спадчына. Пераасэнсаванне

**На тэрыторыі краіны статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці будуць пазбаўленыя 116 аб'ектаў, большасць з іх — помнікі археалогіі. Гэтая інфармацыя на мінулым тыдні прагучала з вуснаў намесніка міністра культуры Беларусі Аляксандр Яцко.**

На працягу дваццаці год у нашай краіне фарміраваўся Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей, у які ўваходзяць аб'екты архітэктуры, горадабудаўніцтва, гісторыі, археалогіі, мастацтва, музейныя калекцыі і кнігі. Гісторыка-культурныя каштоўнасці падзяляюцца на чатыры катэгорыі. У першую ўваходзяць аб'екты, уключаныя або прапанаваныя для ўключэння ў сусветны спіс спадчыны, другую складаюць унікальныя мастацкія, эстэтычныя і дакументальныя помнікі міжнароднага значэння, трэцяя катэгорыя прадугледжвае ахову аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны рэспубліканскага значэння, а чацвёртая — гісторыка-культурныя каштоўнасці рэгіёнаў. Да выключэння 116 помнікаў археалогіі ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей уваходзілі больш як 5,5 тысячы аб'ектаў. З іх прыкладна 5456 — матэрыяльных нерухомых, 87 — матэрыяльных рухомых і 109 — нематэрыяльных праяўленняў творчасці чалавека.

Колькасць выключаных аб'ектаў, названая прадстаўніком Міністэрства культуры, сапраўды ўражвае. Але калі паглядзець спіс пазначаных помнікаў сёння і, напрыклад, адправіцца ў падарожжа па Беларусі, каб убачыць іх на ўласныя вочы, то аб'екты археалогіі на ўказаным месцы можна не знайсці.

Як адбываецца працэс пазбаўлення помнікаў статусу гісторыка-культурнай спадчыны і па якіх крытэрыях адбіраюцца непрыдатныя аб'екты, карэспандэнту «ЛіМа» расказала начальнік аддзела па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Беларусі Наталля Хвір:

— Прадстаўленыя ў спісе аб'екты пазначаныя ў выніку даследаванняў. Дзесьці помніка ўвогуле не існуе, на пэўных месцах помнікамі былі названыя аб'екты, якія на справе такімі не з'яўляюцца. Помнік, напрыклад, пазначаны як курган, а калі праводзіцца даследаванне, аказваецца, што гэта насып, які з'явіўся ў выніку дзейнасці людзей. Калі аб'ект разбураны альбо знішчаны, зноў жа праводзіцца даследаванне, вырашаецца, якія падзеі паўплывалі і хто ў гэтым вінаваты. Міністэрства культуры не само вырашае, пакінуць аб'екты пад аховай альбо выключыць іх са спіса. Па выніках даследаванняў і экспертыз, рашэнні Міністэрства ўзгадняюцца з Беларускай навукова-метадычнай радай па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры.

Летась Міністэрства культуры прыняла рашэнне надаць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці 83 матэрыяльным нерухомым аб'ектам, 9 матэрыяльным рухомым і 33 нематэрыяльным праяўленням творчасці чалавека.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Паходжанне — Зямля?

Фатограф і мастак Валерый Вядрэнка выступіў у Мінску з выстаўкай «Паклон Гаўдзі» ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў Рэспублікі Беларусь. Гэта чыстае натхненне, майстэрская фотапластыка, тонкая рэжысёрская праца, даніна павагі аднаго майстра другому. Вядрэнка ў некалькіх цыклах работ перадаў сваё ўражанне ад твораў вялікага мадэрніста, іспанскага архітэктара Антоніа Гаўдзі, будынкі якога ўпрыгожваюць Барселону.

Па словах Вядрэнкі, мадэрн — апошні вялікі стыль Еўропы, а месцам, дзе ён прарываецца «скрозь зямную кару», не звяртаючы ўвагі на мітусню наўкол, з'яўляецца сталіца Каталоніі.

Выстаўка складаецца з дзвюх частак. Калі ў першай мастак прадставіў толькі чыстыя рэпартажныя здымкі, фотазлепкі фасадаў Гаўдзі ў цікавых ракурсах, аздобленыя ўмелай гульнёй святла і цені, то другая — зусім іншы падыход. Здаецца, што Вядрэнка зняў цэлы фільм па кожнай з работ. Фотакарціны трансфармуюцца, элементы пластычна перацякаюць з адной формы ў другую, рухаюцца, ствараюць арганічную сувязь. Мастак перадаў сувязь прыроды і матэрыяльнай культуры, поўную гармонію — застылых каменных архітэктурных збудаванняў, асабліва храмаў, і выгібаў пяшчотнага, цёплага жаночага цела.



Акрамя аголенай натуры, якая, між іншым, не аддае напускным эратызмам, у фатографа шмат касмічнага, містыкі — як і ў Гаўдзі, дарэчы, асабліва ў кульмінацыйным прыпядзе яго творчасці, калі творца смела мадэрнізаваў гатычны стыль. Вядрэнка аддае перавагу залаціста-карычневым высакародным адценням, маніпулюе прасторай. Сабор на здымку можа павіснуць у паветры над усёй Зямлёй і азарыць святлом самотнага падарожніка ў пустыні... Ёсць у гэтым нешта сакральнае. Вядрэнка лічыць, што для кожнага мастака наведванне Барселоны і знаёмства з творамі Гаўдзі — гэта дотык да боскага, адпраўная кропка творчага шляху. І не істотна, якой ты нацыянальнасці. Гэта мастацтва — сусветнае.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

### Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**25 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Мазго ў межах Тыдня дзіцячай кнігі ў СШ № 137 імя П. М. Машэрава (вул. Каліноўскага, 50, к. 2). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**25 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі сталічнага аддзялення, якая адбудзецца ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі авіяцыі (вул. Убарэвіча, 77). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**29 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі Анатолем Зэкавым і Міколам Чарняўскім у публічнай бібліятэцы № 11 (Ташкенцкі праезд, 3). Пачатак у 13.30.*

**29 сакавіка** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**30 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у Барысаўскай цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы (вул. Чапаева, 3). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**30 сакавіка** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы (вул. Харужай, 16) на паэтычны спектакль-дыспут па творчасці паэта Анатоля Аўруціна. Пачатак у 17.30.*

**31 сакавіка** — *у публічную бібліятэку № 21 (вул. Слабадская, 63) на творчую сустрэчу з паэтэсай Ганнай Чумаковай. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**31 сакавіка** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Я. Чачота, 23) на творчую сустрэчу з пісьменніцай Наталляй Касцючэнка. Пачатак а 16-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**29 сакавіка** — *на сустрэчу навучэнцаў з паэтамі — сябрамі аддзялення ў Ждановіцкі дзіцячы рэспубліканскі аздараўленчы цэнтр. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**30 сакавіка** — *на святочнае мерапрыемства да Дня еднасці Беларусі і Расіі з удзелам Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Аляксандра Сурыкава, прадстаўнікоў Мінскай епархіі, а таксама намесніка старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ, паэтэсы Ірыны Карнаухавай у гімназію № 31 г. Мінска (вул. Мазурава, 6). Пачатак у 12.30.*

### Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**29 сакавіка** — *на творчую сустрэчу чытачоў сельскіх бібліятэк Віцебскага раёна з паэтэсай Тамарай Красновай-Гусачэнка ў ЦБС Віцебскага раёна (вул. 2-я Ціраспальская, 25). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**30 сакавіка** — *на тэатралізаванае прадстаўленне па кнізе Тамары Красновай-Гусачэнка «Новогодние приключения Маруси» ў гарадской бібліятэцы імя У. Караткевіча (Маскоўскі пр-т, 64). Пачатак у 15.30.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**29 сакавіка** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «СЛОВАДРОМ» на базе офіса Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ (г. Гродна, вул. Савецкая, 31, каб. 39), прымеркаванае да Сусветнага дня паэзіі. Тэма дыскусіі — «Поэтом можешь ты не быть...». Пачатак а 18-й гадзіне.*

## Дайджэст

• Абнародаваны шорт-ліст прэтэндэнтаў на прэмію Ханса Крысціяна Андэрсэна. У спісе засталося ўсяго пяць прэтэндэнтаў: нямецкая пісьменніца Мірыям Прэслер, зямляк Андэрсэна Луі Енсан, галандзец Тэд ван Лісхаўт, пісьменнік з Расіі Андрэй Усачоў, а таксама два аўтары з Кітая і ЗША. Імя пераможцы будзе абвешчана на пачатку красавіка.

• Прэзідэнт Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедаў выдае кнігу пра карысць і гаючыя якасці гарбаты. На думку аўтара, гэты напой можа паслужыць крыніцай натхнення, калі ўжываць яго з веданнем справы. Адметна, што ў свой час Гурбангулы Бердымухамедаў быў міністрам аховы здароўя рэспублікі. Першымі чытачамі яго новай кнігі сталі міністры і чыноўнікі, якія адказваюць за бяспеку краіны: менавіта ім былі ўручаныя асобнікі выдання на пасяджэнні, прысвечаным святу Наўруз Байрам, які адзначаецца ў многіх дзяржавах Сярэдняй Азіі. Кніга пра гарбату станецца другой за гэты год работай Прэзідэнта Туркменіі: раней вышэйшыя чыноўнікі рэспублікі атрымалі ў падарунак ад кіраўніка выданне пад назвай «Крыніца мудрасці».

• Новае слова ў кнігагандлі належыць нядаўна адкрытай Парыжскай кнігарні. Крама не мае кніжных паліц і звыклых папяровых выданняў. Каб атрымаць жаданы тэкст, дастаткова адшукаць яго ў каталогу з некалькіх тысяч выданняў, замовіць — і твор будзе раздрукаваны і ўручаны пакупніку на працягу трох хвілін. Пры гэтым кніга можа быць вельмі аб'ёмнай — да 850 старонак. Нязвыклую паслугу прапаноўвае чытачам выдавецтва *Presses Universitaires de France*, якое амаль два дзесяцігоддзі адсутнічала на кніжным рынку Парыжа і цяпер вярнулася з новымі ідэямі. Дзеля іх увасаблення выдаўцы займелі адмысловага робата-друкара, распрацаванага спецыялістамі кампаніі *Xerox*. Выкарыстоўваючы такі спосаб, выдавецтва магло б пазбегнуць многіх сваіх канкурэнтаў, але гэтаму перашкаджае закон, згодна з якім у краіне функцыяніруе адзіны кошт на кніжныя выданні.

• У Варонежы з'явіцца літаратурны парк, адкрыць які плануецца праз паўтара года. Ён будзе звацца дзіцячым, аднак кіраўніцтва горада паведаміла, што тут знойдуць занятак да душы чытачы любога ўзросту. Парк падзеляць на некалькі зон у залежнасці ад іх прызначэння. У адной можна будзе адпачыць у засені дрэў, у другой размесцяцца пляцоўкі для гульняў, у трэцяй, бібліятэчнай, наведвальнікі змогуць абраць кнігу і пачытаць яе ў межах парку. Таксама ў планы арганізатараў уваходзіць абсталяванне дзіцячага літаратурнага кафэ і добраўпарадкаванне зоны адпачынку каля невялікага возера. Акром таго, назву «літаратурны» падмацуе і мастацкае аздабленне парка, для якога будуць выкарыстаныя матывы твораў пісьменнікаў, што маюць дачыненне да варонежскай зямлі. Будаўніцтва аб'екта абыдзецца бюджэту амаль у 100 мільёнаў рублёў.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Гомельскае абласное аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці паэта Генадзя Іванавіча КАЗАКА і выказваюць глыбокае спачуванне сям'і памерлага.

Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі смуткуе ў сувязі са смерцю члена СПБ Генадзя Іванавіча КАЗАКА і выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім памерлага.

Міхась МАМОНЬКА



## Тураў

*Калыска Палесся,*
*Як помнік душы,*
*Сярод*
*Адвечных лясоў,*
*Як святая*
*Матуліна песня,*
*Радзімічаў сыноў.*
*Сонца*
*Драмала ў нетрах,*
*У лужах*
*Пяклося святло,*
*У багнах*
*Жыццё ажывала,*
*Пускала карэнні,*
*З любоўю*
*Людскою расло.*
*І Тураў,*
*Крылы ўзняўшы,*
*Ахінуў*
*Дрымучы прастор,*
*І радасна сэрцу.*
*Тураў*
*Узнёсся да зор!*
*Заходзь*
*У векавечнасць святую,*
*На вуліцу,*
*Плошчу яго.*
*І ты скажаш:*
*«Беларуса тут чую.*
*Радзіміча —*
*Сына*
*Роду свайго».*

## Дамок у Міры

*Цяпер у ім*
*Жывуць*
*Душы мае асколкі*
*І цені*
*Майго кахання,*
*Горкага да слёз.*
*І карані роду,*
*Як на сэрцы болькі,*
*Мой пакутны*
*Маладосці лёс.*
*Над дамком*
*Таполя*
*Узняла ў неба голле,*
*Як чалавек*
*Да Бога рукі,*
*І моліць, моліць неба*
*І маю дарогу,*
*А я іду ў свет,*
*Нібы ў тумане,*
*Слязой*
*Пякучаю*
*Паліваю свой след.*
*О Божа, Божа!*
*Якая асада*
*Лягла*
*На душы маёй.*
*О боль!..*
*Боль разлукі*
*З роднай сям'ёй!*
*Якая трэба сіла,*
*Каб душу*
*Вывярнуць назад.*
*Падняцца,*
*На ногі стаць*
*І жыць*
*Па-новаму пачаць!*
*Я*
*Абняў бярозку*
*Пры дарозе.*
*Яна —*
*Бы з людзьмі*
*І без людзей,*
*Як і я.*
*Жыццё*
*Ёсць толькі*
*На сваім парозе,*
*Таму гарую я*
*І круціцца зямля.*

***

Міколу Котаву прысвячаецца

*Рад,*
*Што такі чалавек*
*На Палессі ёсць.*
*Ён*
*Як кліч вякоў,*
*Ад нетраў,*
*Ад балот,*
*Ад лясоў,*
*Ён*
*Як ад Бога самога,*
*Пасланая зорка з нябёс,*
*Ён з душой чалавечнай,*
*Суладна з прыродай,*
*На Палессі ўваскрос.*
*Ён*
*Абудзіў жыццё*
*У рытме нашых дзён,*
*Нашых сэрцаў,*
*У рытме надзеі спрадвечнай*
*На лепшае,*
*Што жыве ў мазалях,*
*Што ноччу*
*Прыходзіць у сон,*
*Не дазваляе расчуліцца гневу,*
*А імкнецца*
*Супакоіць душу чалавека,*
*І ўзняць яго веліч*
*Музыкай з нетраў*
*Нашага веку.*
*Ахінуць ёю,*
*Як веснім суквеццем,*
*Зямныя шыроты*
*І наталіць сэрцы*
*У непаўторным рытме*
*Мелодыяй танца*
*Змог*
*Мікола Котаў...*

Алесь КАМОЦКІ



***

*Якою дарогай патрапіць у рай —*
*Пытанне шукае адказ.*
*Мы толькі збіраліся шлях выбіраць,*
*Калі ужо выбраў ён нас.*

*Займае дыханне, і словы маўчаць,*
*У марах суцэльны разлад,*
*Не хочацца верыць упартым вачам,*
*Што гэта дарога назад.*

*І кожны там быў, ды не кожны паспеў*
*У самым звычайным жыцці*
*Убачыць не тое, што бачыць прасцей,*
*А тое, што варта знайсці.*

*Якою дарогай вяртацца назад,*
*За межы бягучага дня?*
*Спыняецца час, каб усім паказаць,*
*Што тут яна толькі адна.*

*Дарога назад — гэта сон і падман,*
*Дзе дзівам прыпынены час,*
*Свой наканаваны здзяйсняючы план,*
*Жыццю прапаноўвае нас.*

*Займае дыханне і словы маўчаць,*
*У мары змяняецца смак,*
*Здаецца, што можна яшчэ раз пачаць,*
*Мы толькі не ведаем, як.*

***

*Казалі нам з усіх бакоў:*
*— Глядзіце — вас не стала,*
*А мы спявалі пра любоў*
*Да бульбы і да сала.*
*Кавалак лепшы для гасцей,*
*Прынамсі, кожны меў,*
*Але ж, каб столькі іх было,*
*Наўрад ці хто хацеў.*

*Тым, хто казаў, што нас няма,*
*Мы не маглі паверыць,*
*А хто ж тады іх сустракаў*
*І адчыняў ім дзверы?*
*Хто іх пускаў на свой парог*
*І частаваў як мог?*
*Хто ім на карак апасля*
*Узлезці дапамог?*
*Пакуль сюды буслы лятуць,*
*Былі і ёсць, і будуць*
*Заўсёды тут — мой родны кут —*
*Палі, лясы і людзі.*
*І што б там хто ні гаварыў,*
*Мы тутака ўвесь час.*
*І не настане той пары,*
*Калі не будзе нас.*

***

*Хацелася слову парушыць маўчанне,*
*Хацелася небу сачыць за узлётам,*
*Хацелася скончыцца ўрэшце чаканню.*
*Хацелася ведаць, адкуль ты і хто ты.*

*Вясна перастала здавацца вясною,*
*І здзейснены позірк блукаў паміж снамі,*
*А заўтра было недзе там, за табою,*
*А сёння было недзе тут, перад намі.*

*Твой дзень, панядзелак, спыніўся у часе,*
*Што так не бывае, ніхто не заўважыў.*
*Каб неяк пазбегнуць памылак уласных,*
*Пытанні знікаюць у нетрах адказаў.*

*Але панядзелак былыя надзеі*
*На «ёсць» і «няма» беззваротна*
*падзеліць,*
*Хоць кожны па-свойму, але разумеем:*
*Заўсёды бывае не так, як хацелі.*

*Хацелася слову паслухаць маўчанне,*
*Хацелася небу паспець за узлётам,*
*Хацелася крочыць за межы чакання.*
*Хацелася ведаць, ці будзе субота.*

***

*На крок мы наблізілі неба,*
*Знайшоўшы сябе ў жыцці,*
*Каб незразумелым суседзям*
*Спакойна грахі адпусціць.*
*Даніну цярпенню сплаціўшы,*
*Пазбыцца няпэўных надзей,*
*Каб холад цяплей перажыўся,*
*На ганак выходзіць радзей.*

*Утульнае пекла ілюзій*
*Шануе прасторы свае,*
*І людзі, нібыта, як людзі —*
*Чагосці усім не стае.*
*Для шчасця не трэба нагоды,*
*А толькі пачатак і час,*
*Паціху выходзячы з моды,*
*Яно не сумуе без нас.*

*Ратуе усмешка спагады*
*Ад марнай дарогі назад.*
*Бязлітасны смак лістапада*
*Плыве паўз натомлены сад.*
*Дзе яблыкі адбранзавелі,*
*Галіны згубілі лісты.*
*У свет нечаканых завеяў*
*Не хочаш, а трэба ісці.*

## Дэбют



Кацярына РОЎДА

***

*Па небе ціха зоркі рассыпаліся,*
*Бы хтосьці дзіўны рассцілаў абрус.*
*Чароўнай музыкай у сэрцы адзываліся*
*Твае напевы, продак-беларус!*

*Спяваў бярозкам вецер калыханачку.*
*А я сядзела ціха ля акна.*
*І бэзу куст, што вырас каля ганачка,*
*Шаптаў мне: «Не сумуй, ты не адна!*

*Нарадзілася ў вёсцы Савічы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла Маладзечанскі прафесійна-тэхнічны ліцэй. Студэнтка чацвёртага курса філалагічнага факультэта (завочнае аддзяленне). Працуе бібліятэкарам у фундаментальнай бібліятэцы БДУ. Сябар клуба аматараў мастацкага слова «КЛУмБа».*

*З табою Вера, Мова твая родная,*
*Сям'я і Праца, талент і сябры.*
*Здаровая, здаецца. Не галодная.*
*Вось гэта ўсё — бясцэнныя дары».*

*Пайшла на сцежкі я, слязінка*
*пакацілася.*
*Ды ветрык-брацейка сагрэў мяне, абняў.*
*Я ціха-ціха Богу памалілася...*
*Каб тое, што я маю, не адняў...*

## Агеньчык веры

*А Ён да кожнага ў сусвеце дакранецца.*
*Падасць нам знак і проста супакоіць.*
*Таго, хто верыць, да святла імкнецца,*
*Вадой звычайнай, бы святой, напоіць.*

*А Ён не кіне і не дасць зламацца.*
*Напоўніць душы сілай і цярпеннем.*
*Цяплом у сэрцах будзе адзывацца,*
*Сапраўдным, а не проста летуценнем.*

*Штодня Ён з намі: ў радасці, і ў горы.*
*Любоў Яго не мае дна і меры.*
*На сушы, у паветры і на моры*
*Ён там, дзе не пагас агеньчык веры.*

## Тэлефон маўчыць...

*У акенцы гэтым*
*Ёсць свята ўвячорку.*
*Дроў паленцы ў печы*
*Ціхенька трашчаць.*
*Хата гэтай бабкі*
*Ў вёсцы, на пагорку,*
*Затужыла, пэўна, —*
*Смеху не чуваць.*

*Тут павырасталі*
*І сынок, і дочкі.*
*Сем'ямі сваімі*
*Ў гарадах жывуць.*
*А яна штовечар*
*Праглядае вочкі:*
*«Можа, хто прыедзе?..*
*Можа, забягуць?..»*

*Моліцца да Бога,*
*Сочыць у акенца.*
*А ў суботу зноўку*
*Выпеча пірог.*
*Ды зашчэміць жалем*
*Той матулі сэрца,*
*Што яе наведаць*
*Зноў ніхто не змог.*

*Усё роўна любіць,*
*Крыўды не трымае,*
*Хоць, вядома, сумна*
*І душа баліць.*
*Маці сваіх дзетак*
*Кожны дзень чакае,*
*Ды не заязджаюць...*
*Тэлефон маўчыць...*

## Калыханка

*Засынай, добрай ночкі, дачушка!*
*Будзе сон твой салодкі, як мёд.*
*Я табе праспяваю на вушка,*
*Падмурлыкае казачнік-кот.*

*Пацалуюць на ноч брат і тата...*
*Ноч запросіць усіх адпачыць!*
*Ну а месячык, сябра зіркаты,*
*За табой будзе пільна сачыць.*

*Фея сноў прынясе табе казку*
*І вясёлкавы светлы настрой.*
*Я ж аддам табе ўсю сваю ласку.*
*Спі, дачушка! Матуля з табой.*



Віктар КАКОРЫЧ

# Секунда

*Апавяданне*

На адшліфаваным да бляску светла-карычневым граніце помніка выбіты партрэт маладога вайскоўца: берэт на галаве зухавата ссунуты набакір і нацягнуты амаль на самае брыво, на грудзях — трохвугольнік паласатага нацельніка... «Патупчык Раман Ігаравіч». Даты нараджэння і смерці. Побач з помнікам — букет жоўтых кветак у слоіку. А насупраць, на вузкай пафарбаванай лавачцы, за драўляным столікам сядзіць чубаты хлопец гадоў дваццаці пяці ў не па-восеньску тонкай зялёнай кашулі. Перад ім, на газеце, — неадкаркаваная «паўлітроўка» гарэлкі, пакецікі з ежай.

Хлопец сядзіць у нейкім задуменні і зусім не звяртае ўвагі на неба, якое ўранні было колеру малака, а цяпер ужо спрэс у цёмных хмарах…

Час ад часу хлопец, нібы чакаючы некага, паварочвае галаву, кідае позірк у бок увахода на могілкі, а затым вяртаецца ў сваю ранейшую ціхую задуменнасць. Не адразу ён пачуў ззаду няспешныя крокі па апалай лістоце: да яго падыходзіў высакаваты і шыракаплечы дзяцюк ягоных гадоў у спартыўным трыко і кедах.

— Скажы, брат, а ці далёка яшчэ да ракі? — спыняючыся, звяртаецца да хлопца. — Мне сказалі, што праз могілкі будзе значна бліжэй… Дзень добры.

— Добры, — вяла адказаў хлопец. — Сам не ведаю, не мясцовы. Нядаўна прыехаў.

— Родзіч? — спытаўся субяседнік, зірнуўшы на помнік.

— Сябар, — ціха адказаў хлопец за столікам. — У дэсанце разам служылі.

— А што здарылася? — пацікавіўся малады чалавек.

— Хацеў раней часу прызямліцца, ды парашут падвёў.

З паўхвіліны абодва маўчалі.

— А калі папраўдзе, то самага сябе загубіў, — удакладніў хлопец. — Толькі я пра гэта і ведаю. Паўгода заставалася да нашага дэмбеля, а ён… Захацеў яшчэ раз дома пабыць. Раней ужо быў прэміраваны паездкай на радзіму, калі ўдала выйшаў з перaплёту. Зацяжныя скачкі рабілі. Праз колькі секунд усе парашуты раскрыліся, а ягоны ніяк. На зямлі камандзіры за галовы схапіліся. І вось… раскрываецца. Нешта ў яго там з амуніцыяй не ў парадку было, не змог кальцо своечасова тузануць. А ў батальёне быў адным з лепшых па фізпадрыхтоўцы, бегаў і страляў добра. Файна граў на гітары, спяваў… Камандзіры радаваліся: «Не разгубіўся, малайчына! Во як трэба! Сапраўдны дэсантнік!» Перад строем аб'явілі падзяку, прэміравалі адпачынкам, з'ездзіў дадому. І вось закарцела зноў…

— І які спосаб знайшоў?

— Звычайна хлопцы вяртаюцца ў казарму без ахвоты. А ён прыехаў у цудоўным настроі: па дарозе дамоў з дзяўчынай у вагоне пазнаёміўся. У адным горадзе жылі. Штодня лісты ёй адсылаў. Яна таксама яму пісала. Аж млеў па сваёй Валянціне! А назаўтра — армейскія вучэнні. Вечарам, перад адбоем, пайшлі ў спортгарадок. І кажа ён мне па дарозе: «Хачу паспрабаваць заўтра паўтарыць. Прытармазіць раскрыццё парашута. Можа, на дзён пяць адпусцяць. Не магу ўжо без яе. Цягне як магнітам. Дамоў прыеду — ажанюся. Прывязу сюды. Уладкуецца на працу ў райцэнтр, да майго дэмбеля на кватэры пажыве…» Я вушы развесіў, слухаю як заварожаны. Не магу ні спыніць, ні адгаварыць. Сам, шчыра кажучы, не здолеў бы пайсці на гэткае.



— Рызыкоўна, — пагадзіўся суразмоўца.

— Анягож, — пацвердзіў хлопец. — Ромка знарок прамарудзіў з вырываннем кальца. Я скочыў з самалёта першым, ён — за мной. Даганяе, калі мой парашут пачынае раскрывацца, ды набаўляе яшчэ секунду — для надзейнасці. Парашут не паспеў раскрыцца поўнасцю, не хапіла вышыні…

Хлопец устаў, падышоў да металічнай агароджы.

— Паслухай, братка, выручай, — папрасіў субяседніка. — Павінен быў прыехаць з Мінска мой таварыш, таксама разам служылі. Ды, відаць, не будзе ўжо яго. Зайдзі сюды, памянём майго сябра. Не магу піць адзін.

— Прабач, але ніяк, — адмовіўся дзяцюк. — Мне праз пару гадзін з чэмпіёнам рэспублікі бароцца — турнір вольнікаў ладзіцца. Зімой я саступіў адзін бал, а сёння хачу даць бой…

— Шкада, — ціха, з расчараваннем прамаўляе хлопец. — Вельмі шкада.

— Ды і не магу я на могілках ні піць, ні есці, — даводзіць спартсмен. — Не лезе ў горла ні пітво, ні ежа. Лічу, што памінаць можна дзе заўгодна, але толькі не на могілках.

— Мне таксама не вельмі падабаецца…

— Не разумею тых, хто расцілае на могілках пакрывала, ставіць віно, гарэлку, поўныя міскі... П'юць, ядуць. Кашчунства нейкае. Памінаць дома трэба…

— Згодны!

— Удачы табе, дэсантнік, — сказаў спартсмен на развітанне, паціскаючы хлопцу руку.

— І табе...

Дзяцюк пайшоў далей, да рэчкі, а былы дэсантнік прыбраў са століка бутэльку, пакеты, паклаў у сакваяж. З хвіліну моўчкі глядзеў на партрэт сябра, пасля ледзь чутна прашаптаў: «Даруй, Ромка, што не ўратаваў цябе ад гэтай авантуры». Выйшаў за агароджу і пакіраваўся да выхаду…

# Пакаранне

*Апавяданне*

Аднойчы ў ясны і ціхі летні дзень студэнт Вільнюскага ўніверсітэта Глеб Татур, які жыў разам з бацькамі недалёка ад літоўскай сталіцы, пасля абласнога краязнаўчага музея зайшоў у парк на беразе Дняпра. Юнак збіраў матэрыялы для будучай кнігі — успаміны ветэранаў Вялікай Айчыннай. І сёння быў вельмі ўражаны: ён даведаўся, што на важным чыгуначным вузле толькі ад адной партызанскай міны ў паветра ўзляцелі ажно чатыры варожыя эшалоны з боеприпасамі, палівам, ваеннай тэхнікай… І Глеб спрабаваў хаця б прыблізна падлічыць, колькі мін, снарадаў, авіябомб не абрынулі на нашых вайскоўцаў. Колькі браневікоў, танкаў, самаходных артылерыйскіх установак пазбавіліся палiва…

Глеб выняў з кішэні джынсаў блакнот з ручкай, але ўсе бліжэйшыя лаўкі былі заняты парачкамі, бацькамі з дзецьмі альбо прыезджымі хлопцамі і дзяўчатамі з падручнікамі ў руках, якія рыхтаваліся да паступлення. І толькі бліжэй да сярэдзіны цэнтральнай паркавай алеі, абапал якой у шахматным парадку стаялі лаўкі, адзінока сядзеў стары. Трымаючы перад сабою на выцягнутай руцэ металічную кавельку і адкінуўшыся на спінку лавы, пазіраў угару, на разлапістае дрэва насупраць, за асфальтаванай дарожкай.

Падыходзячы, студэнт нечакана разгледзеў на назе старога артапедычны чаравік. Прыкінуў: па ўзросце мог удзельнічаць у баях. «Відаць, гэта ў яго з вайны...» — падумалася.

— Можна прысесці? — спытаўся, павітаўшыся.

— Канечне, — стары ветла зірнуў вільготна-выцвілымі вачамі і дадаў: — Калі дым не будзеш пускаць.

— Я сам курыльшчыкаў не люблю, — запэўніў хлопец, апускаючыся на лаўку.

— Добра, што не курыш, — пахваліў стары і раптам пацікавіўся: — Штойта, міл чалавек, ты з нейкім акцэнтам гаворыш? А паглядзіш — беларус.

— З маленства ў Прыбалтыцы жыву, — патлумачыў студэнт. — Бацька родам з Палесся, служыў у Літве. Ну і застаўся там пасля дэмабілізацыі, ажаніўся. А тут я на экскурсіі. Калі адсюль, зверху, глядзіш на Задняпроўе, гэта так нагадвае Кіеў! Вось сёння ў музеі пабываў... Раней і не ведаў пра гэткую фенаменальную дыверсію на вашай асіповіцкай станцыі. Добры «сюрпрыз» быў немцам. Я проста ў захапленні!

— Наш беларускі партызан міну падклаў, — пацвердзіў дасведчаны стары, гледзячы перад сабой. — Умела і ўдала. Як гаворыцца, у патрэбным месцы і ў патрэбны час. І добра-такі пацэліў, калі на рэйках сабралася многа эшалонаў. Гэта прызнана лепшай дыверсіяй на сушы ў Другой сусветнай вайне. Наш свайго роду рэванш за няўдалы сорак першы. Мы, беларусы, дужа цяжкі ўдар на сябе прынялі. Ды што я кажу табе, быццам іншаземцу нейкаму…

— І вы, напэўна, удзельнічалі ў вайне? — спытаў Глеб.

— Не-не, — набег цень на чыста паголены твар старога. — Хоць і хацелася паваяваць, і змог бы, думаю. Было мне ў сорак чацвёртым ужо васямнаццаць. Падыходзіў я і да маёра, і да палкоўніка — ні ў якую. Не ўзялі з-за яе...

Стары бегла зірнуў на суразмоўцу, прыўзняў як бы ў доказ нагу з артапедычным чаравікам.

— Траўміраваліся? — з разуменнем, асцярожна, пацікавіўся хлопец.

— Ды як сказаць, — дзядуля перакінуў кавельку праз нагу. — Не сам я... Пакаранне было такое. Бацька мяне правучыў, царства яму нябеснае. Па-спартанску нас выхоўваў…

Немец яго полк разбіў ужо на восьмы дзень вайны. Успароў нeяк мяне, падшываньца, раненька — барсука здабываць. З іх бацька тлушч вытопліваў і прадаваў: сухоты ім лячылі.

Загадана мне было сцерагчы выхад з нары. Лёг я ў траву — так, каб барсук не мог мяне ўбачыць, калі будзе выбягаць. Пакуль бацька дакопваўся з другога канца да нары і пачаў яго выкурваць, крокаў за дзесяць-пятнаццаць ад мяне…

Сам не ведаю, як заснуў: набегаўся за дзень, гуляючы ў лапту з хлопцамі... Карацей, бацька толькі барсучыны хвост уводдалі пабачыў. Разззлаваўся, што я знаку не падаў. Ды з аднастволкі мне — па назе... Азартны быў паляўнік — цяпер такіх наўрад ці знойдзеш... А я дрэнным памочнікам аказаўся.

…Стары сконучыў расповед з вінаватай усмешкай і лёгкай прыкрасцю ў голасе. Быццам апраўдваў той бацькаў учынак.

# Ратаванне ад пустэчы

Айцец Яўстафій (Халіманкоў) пачаў друкавацца ў часопісе «Маладосць» у 2013 годзе. Пра што і як піша чалавек, які мае духоўны сан? Вядома, у творчасці айца Яўстафія адлюстроўваецца добрае знаёмства з рэлігійнай літаратурай і належнае для святара ўважлівае стаўленне да духоўнага жыцця. Але наогул ён піша як прыватная асоба і пачуваецца абсалютна свабодным у роздумах і выяўленні персанажаў.

Я-герой можа быць незадаволеным, расчараваным, засмучаным: «Зноўку паглядаю ў сваё сэрца — часам са страхам, часам з агідай, але звычайна — з маладушнасцю дый безнадзейнасцю», — так распачынаецца «Жыровіцкі дыярыуш», які друкаваўся невялікімі часткамі ў другой палове 2013 года. У параўнанні з іншымі творамі айца Яўстафія (іх у «Маладосці» змешчана ўжо чатыры), тут найбольшая ўвага прысвечана дачыненням верніка з Госпадам.

Паводле новага твора, апублікаванага ў апошніх нумарах часопіса, зварот да Бога ці наближэнне да Яго яшчэ на адну прыступку можа паўстаць своеасаблівым хэпі-эндам. Але, як сведчыць «Жыровіцкі дыярыуш», гэта толькі пачатковы пункт для самаўдасканалення. Бо ўрачыстасць заўсёднага знаходжання перад аблічам Бога можа раптам знікнуць. Вядома, вернік застаецца ўдзельнікам карагода рэлігійных абрадаў і традыцыйных размоў «за гарбатай» ці «за кагорам», але сумуе без гарачай любові да Бога. «Кожны з нас займае нейкую сваю нішу ў гэтым “духоўным свеце” — “у свеце духаў”: ставіць ложак, сцеле абрус з кветачкамі, расстаўляе ў чырвоным куточку іконачкі, уключае “комп” з рафінаваным праваслаўным “інэтам”... І пачынаецца монаспектакль даўжынёю ў жыццё».

Айцец Яўстафій крытычна ставіцца і да вечнага «паглядання ў сваё сэрца», бо «бясконцае самакапанне, нейкі праваслаўны самааналаіз (...) выводзяць чалавека на пэўную арбіту, і ён, нібы тая замыленая вінілавая кружэлка, пачынае бясконцую валтузню вакол сваёй уласнай асобы». У дыярыушы згадваюцца самыя розныя фазы дачыненняў між вернікам і Богам, знаходзіцца месца і больш прыватным успамінам пра маладосць, каханне ды колішні час бязвер'я.

Радасці і расчараванні хрысціяніна наўрад ці зацікавяць чытача, далёкага ад царквы. Але частыя згадкі пра Бога, веру, душу, малітву на першых старонках часопіса павінны нагадаць пра значнасць духоўнага жыцця — у гэтым і ёсць практычная задача духоўнай прозы.

«Віленскі лямант» і «Беларускае галашэнне» вяртаюць да адвечных беларускіх праблем: нічыйная зямля, падманутыя надзеі, ідэалізацыя асобных гістарычных перыядаў, балючае перажыванне сваёй адзінокай (амаль адзінкавай) любові да Радзімы.

Наступны твор айца Яўстафія друкаваўся ў 2015 — 2016 гг. і складаецца з трох частак — «Рымскі сплін», «Парыжскае развітанне», «Усмешка прадзеда». У адрозненні ад «Жыровіцкага дыярыуша» апавяданне мае сюжэт: гэта гісторыя доўгай дэпрэсіі, якая завяршаецца радасным для героя адкрыццём-успамінам. Сяргей — паспяховы журналіст, які страціў каханую жонку і расчараваўся ў працы (адсюль шмат разваг пра каханне і творчасць). Ён выпраўляецца ў Рым і Парыж, каб здзейсніць даўнюю мару і апынуцца сам-насам з успамінамі. «Сяргей проста хацеў застацца сабой, але… каб жа ён ведаў гэтага сябе — вось у чым справа!.. Таму для пазнання сябе ён і выбраў звычайны для мастака фармат: душэўны экстрым з падарожжам у мінулае». Да ўспамінаў дадаецца алкаголь, жыхары еўрапейскіх сталіц дзівяцца на адмысловага турыста — але ў трэцяй частцы Сяргей едзе на Афон. Падказка афонскага старца робіцца лёсавызначальнай, бо дазваляе знайсці ў мінулым дакладна тыя ўспаміны, якія ратуюць ад пустэчы і натхняюць жыць.

Твор заваблівае чаканнем чарговай слушнай думкі ці неспадзёўкі ў выяўленні герояў.



Напрыклад, афонскі старац мае адметную ўсмешку, але наогул гэта «звычайны мужчына ў гадах, добра ўкормлены — адным словам, ніякі не аскет», дый жыве ў сучасным еўракатэджы. Заключны тэкст надзвычай дынамічны ў параўнанні з першымі часткамі, дзе чытач разам з героем рызыкуе стаміцца ад «бясконцых самакапанняў».

Вядома, паглыблены псіхалагізм не напружыць рэлігійнага чалавека альбо дасведчанага аматара літаратуры, прызвычаенага да «плыні свядомасці» і пакручастых эсэ-разважанняў. Відавочна, што аўтар арыентуецца на вузкую аўдыторыю, і гэта тлумачыцца ў тым ліку словамі галоўнага героя: «Нармальны сучасны пісьменнік, нікому не патрэбны, як і нармальны сучасны джазавы музыкант, звычайна не зацыкліваецца на вечных пытаннях». Гэты загадкавы сказ можа выклікаць нязгоду: пісьменнікі, якія звярталіся да вечных пытанняў, і сёння маюць нямала чытачоў, прычым не толькі класікі, але і аўтары, папулярныя ў апошнія дзесяцігоддзі (напрыклад Харукі Муракамі ды Рычард Бах). Справа толькі ў тым, у якой прапорцыі спалучаць «вечнае» з прывабнымі цікавосткамі — і, адпаведна, як уяўляць (у тым ліку колькасна) сваю аўдыторыю.

Айцец Яўстафій мае адметны стыль і добры літаратурны густ, да таго ж гэта разумны і глыбакадумны аўтар. Яго творчыя пошукі выклікаюць вялікую цікавасць не толькі як узор духоўнай прозы, і хочацца спадзявацца, што «завязаць» з літаратурным мінулым у айца Яўстафія не атрымаецца. Затое добра будзе сустрэць у новых творах арганічны для аўтара і цікавы для чытача сюжэт, а таксама адзначыць больш стройную кампазіцыю.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*З пошты «ЛіМа»*

# Літаратурная аўра Берасцейшчыны

У пісьменніцкіх суполках заўсёды знаходзяцца асобы, якія дбаюць не толькі пра асабістыя творчыя поспехі, асабістыя прэстыж, але і пра пачынаючых маладых творцаў, калег, пра развіццё літаратуры наогул. Да такіх шчырых дабрачынцаў адносіцца пісьменніца з Брэста Таццяна Дземідовіч, яна ж кіраўнік літаратурнага клуба «Літара» пры Брэсцкім гарадскім Доме культуры.




Акрамя асноўнай працы і ўласнай літаратурнай творчасці, удзелу ў шматлікіх конкурсах, яна знаходзіць час на складанне калектыўных зборнікаў ды альманахаў. Так, выдадзеныя два нумары альманаха «Свая Стыхія» (2008, 2009), калектыўны зборнік паэзіі і прозы берасцейскіх аўтараў для дзяцей «Карусель» (2010), зборнік «Сіла слабасці» (2013), у які ўвайшлі творы пісьменніц Берасцейшчыны. І вось яшчэ адна калектыўная работа: у выдавецтве «Альтэрнатыва» з накладам у 300 асобнікаў выйшаў доўгачаканы, змястоўны (больш за 300 старонак) зборнік з сімвалічнай назвай «ЛітАўра», прыдуманай самой укладальніцай. Сорак аўтараў узялі ўдзел у творчым праекце. Сярод іх — члены клуба «Літара», паэты і празаікі Брэста, Баранавіч, Пінска, Лунінца, Камянца.

Кніга падзеленая на раздзелы, што дазваляе чытачу хутка знайсці карысныя матэрыялы для ўрокаў краязнаўства, тэматычных вечароў, школьных святочных мерапрыемстваў, а яшчэ — скласці пэўнае меркаванне пра галоўны кірункі развіцця рэгіянальнай літаратуры.

Першы з іх — «Паветра Радзімы» — змяшчае вершы Надзеі Парчук, Алёны Папко, Міколы Панасюка, Вольгі Грыдзюшка, Алеся Корнева, Яніны Грыгаровіч, Лідзіі Касачук, Раісы Раманчук, Віктара Пінігіна, Аляксандра Хаўдзеева, апавяданні Марыі Якімук. Аўтары, як і варта было чакаць, горача апяваюць дарагія сэрцу мясціны, звяртаюцца да імёнаў беларускіх светачаў, а таксама выступаюць з духоўным словам. Мікола Панасюк у вершы «Як Божы дар» з гонарам і сыноўняй цеплынёй прызнаецца, што «Сінечу неба зверху ўніз, // Як шчодры дар, мне Бог паслаў…» і тут жа пералічвае падоранае багацце:

*Ад бацькі — плуг і баразна,*
*Ад птаха — моцнае крыло.*
*Буслiным клёкатам вясна*
*Будзіла роднае сяло.*

Варта працытаваць і найбольш удалыя радкі Алёны Папко:

*Да зор ляцець нам тысячы гадоў —*
*І тысячы гадоў назад вяртацца.*
*Пакінь жа шчасце летніх вечароў,*
*Каб век ад веку мне ім прычашчацца…*

«Памяць у сэрцы застацца павінна» — раздзел-прызнанне, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Горыч незлічоных страт і светлая радасць спалучаюцца ў вершах Веры Вакула, Аляксандры Лятыцкай, Ірыны Здановіч, Алы Гопша і ў творах празаікаў Настассі Нарэйка, Таццяны Дземідовіч ды іншых аўтараў, якія кранальна, усхвалявана перадаюць уражанні ад убачанага ў кінафільмах, прачытанага ў кнігах ці пачутага ад удзельнікаў баёў; дзякуюць старэйшаму пакаленню за падораны мір.

*І стынуць сэрцы каля пліт:*
*О, колькі ж тут крыві праліта!*
*Гарыць агонь… маўчыць граніт…*
*Звініць над крэпасцю блакіт,*
*Імёны свецяцца на плітах...*

(Надзея Парчук)

Радком з верша маладой паэткі Алёны Папко абазначаны раздзел «Вяртаюцца, пакуль жыве любоў»: інтымная лірыка, праніклёная, народжаная сардэчнымі пачуццямі да самых дарагіх людзей (Міхаіл Кулеш, Андрэй Божуль, Рыгор Жук, Таццяна Пясецкая, Ціна Хутаранка, Клаўдзія Трысцень, Віктар Пінігін, Таццяна Шульга і інш.).

Не менш хвалюе мастакоў слова пошук жыццёвага сэнсу, духоўных арыенціраў, якія складаюць падмурак чалавечага шчасця. Таму самай прыцягальнай (і самай натхняльнай) для іх тэматыкай застаецца, кажучы ўмоўна, лірычна-філасафічная. Па размаху і глыбіні думкі яна не ведае абмежаванняў. З гэтай нагоды і раздзел «Філасофія жыцця» атрымаўся самым аб'ёмным, багатым — і цікавым. Эдуард Цімафееў, Валянціна Кульбеда-Бакун, Васіль Баннаў, Наталля Сцепусь, Ірына Ярмак, Аляксандрына Паршына, Галіна Ліс, Аляксандр Гопша, Алена Ляшук запрашаюць у свет складаных адкрыццяў, роздумаў і чалавечых мудрасці.

Самой творчасці і стваральнаму працэсу прысвечаны раздзел «Ты музу сэрцам пазаві». Аўтары распавядаюць пра ўзнёслы стан душы, пра незвычайныя адчуванні, што ўзнікаюць, калі ў ёй гасцюе красамоўная Муза, пра салодкія і горкія моманты творчасці; спрабуюць разабрацца, што такое натхненне: падарунак нябёс ці складанае выпрабаванне лёсу. «Здаецца, больш ужо не напішу. // Не знойдзецца ні вобразу, ні тэмы», — перажывае Вольга Грыдзюшка ў адным са сваіх вершаў, і ўсё роўна, як сказаў Андрэй Божуль, — «на белы ліст жыццё сваё кладзе» — паэт працягвае пісаць і, на радасць, знаходзіць нешта новае, непаўторнае. «Баліць яму стагоддзяў боль, // Інакш ці быў бы ён паэтам?» — рытарычна падсумоўвае Яніна Грыгаровіч.

Пейзажная лірыка сабраная ў раздзеле «В любое время года чарует нас природа» (радкі Лідзіі Касачук). Маляўнічая Беларусь — у лірычных замалёўках, у назіраннях за капрызамі надвор'я, здзіўленнях сюрпрызамі прыроды… Уражанні душы, раскрытыя праз палітру яркіх прыродных фарбаў. Звыклае — праз свет незвычайных вобразаў.

Лагічна, што такі разнастайны зборнік мае і «Дзіцячую старонку», якая прапануе вершы, загадкі, апавяданні, што ззяюць дабрынёй і цеплынёй. Аўтары ўклалі ў іх лагоду і спагаду, праз іх імкнуцца выявіць у маленькім чытачы любоў да ўсяго жывога, развіць дзіцячую цікаўнасць і дапытлівасць. Да гэтай рубрыкі спрычыніліся паэты Ніна Енбулаева, Галіна Бабарыка, казачнік і майстар рыфмаванай загадкі Сяргей Дубнавіцкі ды іншыя. Апавяданні Івана Мельнічука вучаць дзяцей аналізаваць свае ўчынкі, быць разумнымі, адказнымі і сумленнымі. У падраздзеле «Казачны свет» прадстаўленыя мудрая, з высокай мараллю казка Івана Дацкевіча (будзе цікавай людзям любога ўзросту), вобразная і светлая проза Наталлі Кухліч, рамантычна-таямнічая феерыя Светламіры Васілюк.

Знайшлося ў зборніку месца і для «Гумару». Лёгка, на адным дыханні чытаюцца кур'ёзныя жыццёвыя гісторыі, вясёлыя расповеды з жыцця падлеткаў, дасціпная вершаваная іронія аўтараў-гумарыстаў.

Так, двухмоўным зборнікам прозы і паэзіі «ЛітАўра» берасцейскія літаратары прывіталі Год культуры.

**Надзея ЛАДАРЖАНКА**

# «Я цябе дэжавю», альбо Нагоды быць закаханым

**Кніга, названая «З Эдэму на Зямлю», верагодней за ўсё будзе пра каханне. Асабліва калі аўтар — дзяўчына. Збольшага, так і ёсць: Івона Шовк часцей за ўсё звяртаецца да інтымных перажыванняў, пры гэтым, што ўвогуле характэрна для жаночай паэзіі, разглядае не «я», а «мы» (у той час як мужчыны-паэты альбо эгаістычна канцэнтруюцца на ўласных пакутах, альбо ўсхваляюць сваю абранніцу). І ўсё ж нельга абмежаваць змест зборніка інтымнай лірыкай. Як нельга трактаваць назву аднабакова.**

Калі ўглядацца не толькі ў сказанае, але й у міжрадкоўе, можна заўважыць цікавую з'яву: насамрэч не самое каханне прываблівае гераіню, але тыя магчымасці, якія адкрывае пачуццё. Найперш — дайсці да сябе. Зразумець урэшце, хто ты ёсць і чаго хочаш, стаць сапраўдным, змяніць псеўдабыццё на паўнавартаснае, паўнакроўнае жыццё. Чаму так адбываецца — пытанне, якое сягае далёка за межы вершаў і гэтай рэцэнзіі. Але калі адштурхоўвацца ад вершаў спадарыні Івоны, напрошваецца выснова простая: вялікае пачуццё адсяляе ўсё другаснае, робіць цябе адначасова безабаронным і ўсемагутным.

*…Як ланцуг разам скінеш,*
*І, адчуўшы каханне,*
*Сэрца моцна заб'ецца*
*і падкажа:*
*Жывы!*

Другая «магчымасць кахання» — вяртанне ў дзяцінства. Яно трывала звязанае з адчуваннем сябе сапраўдным: у дзяцінстве ўсё проста, ясна, і ты вольны ад бясконцых унутраных «трэба», «павінен», «нельга». Нягледзячы на прывязанасць да чалавека, часам неадольную, гераіня пачуваецца як ніколі вольнай.

У вершах Івоны Шовк спалучаюцца рысы пачаткоўскае творчасці і сапраўдныя паэтычныя праблёскі. Апошніх — болей.

*Кожнага разу д'ябальскі*
*свет лунае ў*
*прыдонні вачэй,*
*У дыме кальяннай, у змроку*
*ўласнай*
*пагарды,*
*У мужчынскай далоні,*
*кранууўшай*
*пяшчотна плячэй.*
*Тоіцца дэ.*
*Хаваецца жа.*
*Губляецца вю.*
*Я цябе дэжавю.*

«З Эдэму на Зямлю» — якраз той выпадак, калі суровыя майстры кажуць «талент відавочны, але трэба працаваць». Прычым праца гэтая патрэбная якраз не ў дачыненні разняволенасці, якая адрознівае мастака ад падмайстра, а з тэхнічнымі момантамі. Так, даволі часта граматычная правільнасць кладзецца на алтар рыфмы. Іншым разам узнікаюць складанасці з «ў», якое ўпарта псуе рытмічны малюнак. Гэта ўжо не кажучы пра карэктарскую працу.

Але тут свае нюансы. «З Эдэму на Зямлю» — электроннае выданне. І, здаецца, створанае яно выключна сіламі аўтара. Гэта значыць, без пільнага і прынцыповага рэдактара, які б змагаўся са шматслоўем (з'ява нячастая, але мае месца) ды ігнараваннем фармальных патрабаванняў мовы. Які б змусіў аўтара дапрацаваць іншыя тэксты, зрабіўшы з добрага верша адметны, з адметнага — дасканалы.

Ёсць у выдання яшчэ адна «цікавостка»: яно спалучае адразу два віды мастацтва, ствараe паэтычны свет не толькі словам, але і малюнкам. За выяўленчую частку адказвае Павел Дарохін. Яго работы даволі літаральна ілюструюць тэкст: гаворка пра бяззорную ноч, праведзеную на мосце, — і вось ён, мост, вось — ноч; гаворка пра перапляценне целаў, пра каханне — і вось яны, ногі-рукі-ліяны, чырвоны трыкутнік як сімвал адзінства. Моцны бок мастацкай часткі не ў інтэрпрэтацыі верша, але ў настроі, які перадаецца колерам, фактурай. Гераіня, напрыклад, некалькі разоў з'яўляецца перад чытачом у сіняй сукенцы (іранічна згадаем літаратуразнаўчы жарт пра сінія фіранкі). Чырвоны колер вызначае акцэнты верша: радыё ў бяссонную ноч, лісіца ў сне каханага (пераўвасабленне гераіні), пацалунак між шэрых гмахаў. Безумоўная перамога ў гэтым шэрагу застаецца за ілюстрацыяй да верша «Хлопчык»: вайсковы жэтон у цені самалёта, які мог быць паратункам, а стаў ценем смерці.




Пры гэтым варта звярнуць увагу і на сам верш, адзін з нямногіх, што «не пра каханне». Самалёт і хлопчык — вобразы, якія выклікаюць у беларускага чытача выключна адную асацыяцыю, закладзеную ў свядомасць са школьных гадоў і пераапрацаваную на жартаўлівы лад Андрэем Хадановічам. І нашага вечнага хлопчыка такі забраў лётчык — па імені «вайна». Замест «мне ўжо надакучыла дома» цяпер гучыць іншае: «Неба, забяры мяне ў бязмежжа! / Пакажы няўлоўны далягляд, / Да якога не дайсці нізк».

*Хлопчык ляціць, раскінуўшы*
*рукі,*
*Як птушка.*
*За плячмі — парашут,*
*а за спінай —*
*Жыцця кінастужка.*

Якая вось-вось перарвецца. І нельга сказаць, быццам верш толькі пра тое, што вайна — гэта кепска. Ён не пазбаўлены хібаў, але пры гэтым не з'яўляецца творам «плоскім», аднэзначным. Гаворка пра іншае — тое ж, што і ў інтымнай лірыцы: пра самае значнае ў жыцці, пра размежаванне каштоўнасцей ілюзорных і існых. Уласна кажучы, пра бясцэннасць самога чалавечага існавання. У словах «лёс кароткі пражыў — ды жыцця / бадай, не прыкмеціў» — горыч без лішняга трагедыйнага пафасу.

Вялікую ролю ў вершах Івоны Шовк іграе паняцце часу, якое мае розныя ўвасабленні: поры года, антанімічныя шэрагі праяў жыцця, чалавечых пачуццяў («Дзе слодыч і горыч, / Дзе моц і знямога, / Дзе цемрадзь і свет (вось яна, праца для рэдактара.— **Н. Г.** )», «Спакой з насцярогі, / Пакуты з кахання»); непарыўнасць будучыні і мінулага («Бездань»); змены самога чалавека (гераіня прачувае розныя станы — ад гарэзлівай бесклапотнасці да сівізны) і маленькі канатаходзец з верша «Крок наперад» — чалавек, які балансуе на тоненькай нітачцы лёсу. Словам,

*Час — няўлоўны*
*гарэза-вятрыска —*
*круціць жорнавы на млыне.*

Відаць, «З Эдэму на Зямлю» — не толькі з кахання ў пакуту, не толькі з бесклапотнага дзяцінства ў абцяжараную сталасць, але перадусім — з вечнасці ў караценькія імгненні, якія Івона Шовк (і, упэўнeная, яе чытач) імкнецца пражыць так, каб іх можна было назваць «жыццём».

**Наста ГРЫШЧУК**

# У пошуках сябе

## Пра тое, што не ведаюць нават блізкія

Кніга без пачатку і канца. Кніга, дзе няма галоўных герояў, але ўсе дзеючыя асобы — адзін цэнтральны персанаж. Кніга без строгай паслядоўнасці, але не без сюжэта. Твор па-за жанрамі і нават па-за літаратурай: нешта прамежкавае паміж споведдзю і філасофскім трактатам. Усё гэта пра дэбютную кнігу Кірыла Стасселькі «Дзіцячы маніфест».

Беручы ў рукі першае выданне маладога аўтара, а тым больш празаіка, рэдка чакаеш чагосьці геніяльнага, прынцыпова новага, эксклюзіўнага, наватарскага. Хутчэй за ўсё, будзе нешта лірычнае, асабістае, аўтабіяграфічнае. І часцей так і ёсць. Але дэбютная кніга Кірыла Стасселькі — выключэнне. Гэта вельмі спецыфічнае чытво для падрыхтаванага чытача, якое, нягледзячы на невялікія аб'ёмы, не прачытаеш з наскоку за вечар ці ў грамадскім транспарце. «Дзіцячы маніфест» трэба «каштаваць» паступова, па сказе, слоўцу, літары, перачытваць некалькі разоў. Але ўсё роўна няма гарантыі, што зразумееш да канца.




Выданне складаецца з аповесці «У пошуках сябе» і нізкі апавяданняў, якія не звязаныя ні паміж сабой, ні з аповесцю, але аб'яднаныя агульным настроем, танальнасцю, атмасферай. Анатацыя сведчыць: «Дзіцячы маніфест» — спроба аўтара знайсці межы і магчымасці чалавечай свабоды ў грамадстве, зразумець асаблівасці Рубікону, які палягае між нормай і вар'яцтвам. У кнізе вы сустрэнеце французскага пісьменніка, цела якога знутры разрываецца ад ціску ўласнага Эга, чалавека, чыя рэальнасць і сон зліваюцца, мастака, чыя галава аддзялілася ад цела, ды шмат іншых герояў, якія паразнаму намагаюцца напісаць маніфест свайго «Я».

Чытаць кнігу можна з любога моманту, аднак для разумення ўсё адно давядзецца прайсці ад пачатку да канца. Як вынік, кніга пра час дазваляе самастойна абіраць шлях чытання. З тэксту другога ўзроўню, складзенага з цытат, спасылак, філасофскіх тэрмінаў і схаваных намёкаў, можна штораз вярнуцца на першы, да паслядоўнай гісторыі. Падарункам аўтара робяцца менавіта гэтыя раскіданыя і ад выпадковай сустрэчы нечакана блізкія іншыя аўтары, ідэі і наратывы. Ёсць, аднак, небяспечнае жаданне расставіць усе фігуры і сэнсы ў выразным парадку, узнавіўшы сярэднявечны тэатр памяці. Але гэта ўсяго толькі ілюзія, у тым ідэальным тэатры існаваў толькі адзін рэжысёр, у тэксту застаецца толькі адзін аўтар. Пры гэтым тэкст, як і ўспаміны галоўных герояў, пластычны і канструюецца кожны раз нанова. Гештальт не закрыты, героі на самай справе вечна жывыя, гісторыя працягваецца, сувязь часоў і падзей не можа быць перапыненая.

Калі вы нічога не ведаеце пра аўтара, то пасля прачытання кнігі абавязкова ўзнікне пытанне: хто той чалавек, які гэта напісаў. Некаторыя факты біяграфіі пралiваюць святло на гісторыю напісання кнігі. Напрыклад, маналагічнасць, развагі і адсылкі да філасофскіх трактатаў тлумачацца адукацыяй Кірыла Стасселькі: пісьменнік скончыў факультэт філасофскіх і сацыяльных навук БДУ. Магчыма, там жа ён набыў і глыбокія веды па псіхалогіі і псіхааналізе. Можа, гэта ўжо ўплыў цяперашняга навучання ў аспірантуры Акадэміі навук. Але ў любым выпадку грунтоўная адукацыя маладога пісьменніка пакінула вельмі заўважны адбітак на яго творчасці, таму патрабуе ад чытача не меншай дасведчанасці і высокай інтэлектуальнай падрыхтоўкі.

Як адзначае сам Кірыл Стасселька, кніга «Дзіцячы маніфест» — спроба разабрацца, што адбываецца з тымі, хто не ўпісваецца ў агульнапрынятыя рамкі. Гэта кніга не пра інфантаў і хіпстараў. Хоць след герояў нашага часу ў некаторых апавяданнях ёсць. Напрыклад, малады эгаіст, у якога ніяк не атрымліваецца стварыць адносіны. Або маленькі хлопчык, што абвяшчае свой маніфест незалежнасці ад бацькоўскіх забарон. Гэта кніга пра кожнага з нас. Пра нашыя комплексы, страхі, эмоцыі і пачуцці. Пра тое, што мы хаваем глыбока ў сабе і не распавядаем нават родным і блізкім. Менавіта гэткай шчырасцю, агаленасцю думак і пачуццяў кніга Кірыла Стасселькі вылучаецца сярод іншых выданняў маладых беларускіх аўтараў. «Дзіцячы маніфест» — вельмі еўрапейская кніга праз смеласць мыслення аўтара.

Што да хібаў, то мне не хапіла цэльнасці аповесці «У пошуках сябе»: зацягнуты пачатак вельмі стамляе, бліжэй да сярэдзіны твора пачынаеш адчуваць сюжэт, захапляцца гісторыяй, і раптам твор заканчваецца, пакідаючы горкі паслясмак расчаравання. Здаецца, аповед завершаны, пісьменнік выкарыстоўвае такі амаль бяспройгрышны прыём, як кальцавая кампазіцыя, але не чапляе. Усё роўна застаецца адчуванне незавершанасці, недапрацаванасці. Таму на фоне аповесці апавяданні выглядаюць больш выверанымі, дакладнымі, прафесійнымі. Таксама Кірылу Стассельку не зусім удалося прапісаць погляды розных персанажаў на адну і тую ж падзею: гэта выглядала як халтурнае капіраванне кавалкаў тэксту і выпраўленне ў іх некалькі слоў. Таму яшчэ адна выдатная задумка была загубленая праз адсутнасць вопыту маладога пісьменніка.

На працягу ўсёй кнігі не пакідае адчуванне, што таямнічая метафізічнасць падгледжана ў Ігара Бабкова, нешта сярэдняе паміж «Хвілінкай» і «Адамам Клакоцкім». Гэта зноў жа гісторыі, якія маглі б адбыцца, то бок завяршыцца, але так і засталіся вісець у паветры. А варыянты канцоўкі аповесці можна прыдумаць самім. Ствараючы свой шэраг галоўных герояў, падаецца, аўтар пакідае нас у магічным свеце, з якога няма выйсця. Але, вядома ж, насамрэч усё глыбей. Праз бясконцыя фідбэкі і ўспаміны герояў ловіш сябе на думцы, што таксама шукаеш сябе.

Сапраўдная кнігу робіць выхад за межы ўласнага пляскатага свету, але першы крок кожны раз павінен быць «менавіта з гэтай рэальнасці». У момант, калі атрымліваецца ахапіць некалькі ўзроўняў разумення, незалежна ад сюжэта або стылістычных асаблівасцей, тэкст і аўтар атрымліваюць права на месца ў літаратуры і гісторыі.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»*
*і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі*

# Кніжны свет

25 сакавіка 2016 г.

*Унікальны праект*

# Біяграфія для паўстанца

**Над гэтай кнігай кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела публікацыі дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Дзмітрый Матвейчык рупіўся каля васьмі гадоў. Прапрацаваў больш як семсот архіўных спраў, склаў больш за сем тысяч (!) біяграфій асоб, хто тым ці іншым чынам падтрымаў паўстанне 1863-64 гадоў. Таму і аб'ём біяграфічнага слоўніка «Удзельнікі паўстання 1863 — 1864 гадоў», што не так даўно пабачыў свет у выдавецтве «Беларусь», не можа не ўражваць. У гутарцы з карэспандэнтам Дзмітрый Матвейчык прадстаўляе абагулены партрэт паўстанца, дапамагае адшукаць у біяграфічным слоўніку згадкі пра продкаў і прыводзіць аптымальны рэцэпт выкарыстання сваёй новай кнігі для напісання гістарычных раманаў і кінасцэнарыяў.**



Фота Марыі Сцяпанавай.

**— Спадар Дзмітрый, вы працавалі з асабістымі біяграфіямі паўстанцаў. Ці можна стварыць умоўны партрэт удзельніка паўстання пад кіраўніцтвам Каліноўскага?**

— Можна, але толькі ў самых агульных рысах, бо выключэнняў будзе вялікая колькасць. Сацыяльны стан «умоўнага паўстанца» — зацверджаны або незацверджаны дваранін. Ён хутчэй небагаты, нават бедны. Як правіла, адносна малады чалавек ва ўзросце ад 20 да 35 гадоў. Мужчына, хоць жанчыны таксама не выключаны: яны актыўна бралі ўдзел у агітацыйнай кампаніі на карысць паўстання. І, нарэшце, сельскі жыхар — гараджан сярод паўстанцаў было не так многа. Ды і ўвогуле ў той час у Беларусі гараджан было няшмат.

**— А колькі ўсё ж такі ў кнізе біяграфій жанчын?**

— Цяжка сказаць, адмыслова не лічыў. Але некалькі дзясяткаў жаночых імёнаў вы дакладна знойдзеце. Яны займаліся пераважна агітацыяй, а ўжо падчас паўстання — зборам і перапраўкай у атрады медыкаментаў або забеспячэннем лекамі параненых палонных паўстанцаў у шпіталях, дастаўкай харчавання і разведвальнай інфармацыяй.

**— З якой мясцовасці паўстанцы, біяграфіі якіх змешчаны ў кнізе?**

— У слоўніку не рабілася абмежаванне па мясцовасці: браліся любыя матэрыялы з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. У сувязі з тым, што наш архіў захоўвае пераважна справы па Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губернях, то найбольш дакладна прадстаўлена асоба менавіта з названых рэгіёнаў. Але гэта зусім не азначае, што жыхароў іншых мясцовасцей тут няма. У нашых фондах вельмі шмат разнастайных спісаў, якія перасылаліся паміж губернямі, таму звесткі пра ўраджэнцаў і Гродзеншчыны, і Віленшчыны, і Валыншчыны, і нават Каралеўства Польскага таксама ў кнізе ёсць. Геаграфія слоўніка досыць шырокая.

**— Ці можаце прывесці прыклады цікавых лёсаў людзей, па якіх і кнігу варта было б напісаць?**

— Такіх нямала. З улікам таго, што ў паўстанні ўдзельнічала вялікая колькасць моладзі, наперадзе іх чакала доўгае і багатае на падзеі жыццё. Шмат хто прайшоў праз Сібір, а потым або вярнуўся па амністыі на радзіму, або застаўся стала жыць на месцы былой высылкі. Камусьці ўдалося перабрацца ў Заходнюю Еўропу. Некаторыя эмігрыравалі адразу пасля паўстання, здолеўшы ўцячы ад расійскіх войскаў. Таму біяграфій, на падставе якіх можна было б напісаць дэтэктыўны раман, шмат. Возьмем жыццяпіс Зыгмунда Мінейкі, камандзіра ашмянскага паўстанцкага атрада, які стаў Ганаровым грамадзянінам Грэцыі. Ён удзельнічаў у паўстанні, трапіў у палон, быў сасланы, пад чужымі прозвішчамі некалькі гадоў пражыў у Сібіры, здолеў перабрацца ў Заходнюю Еўропу, адтуль — у Турцыю, а потым — у Грэцыю. Пакінуў аб'ёмныя ўспаміны пра свае прыгоды і працы. Яго біяграфія з лёгкасцю можа стаць дэтэктывам ці быць экранізаванай у якасці мастацкага фільма.

**— Тады, можа, параім рэцэпт пісьменнікам і сцэнарыстам: узяць складзены вамі слоўнік, натхніцца і — пісаць?**

— Насамрэч, у кнізе не надта шмат матэрыялаў пра тую ці іншую асобу, бо выбіраліся, падкрэсліваю, толькі тыя звесткі, якія ёсць у Нацыянальным гістарычным архіве. Часам яны не вельмі багатыя. Пра таго ж Зыгмунда Мінейку тут звестак няшмат. Але пісьменнікам і сцэнарыстам варта ўзняць пласт мемуарнай літаратуры, бо фактычна на аснове любых успамінаў можна напісаць раман. Цікавых герояў таго часу сапраўды шмат!




**— Значыць, удакладнім: біяграфічны слоўнік, дзе можна знайсці героя і яго мемуары, нядаўна выдадзены: «Канкарданс беларускай мовы XIX ст.», які дапаможа ўзнавіць стылістыку…**

— Так, прынамсі пачатковы матэрыял для фантазіі і працы тут будзе.

**— А ці дапаможа ваша новая кніга ў пошуках звестак пра продкаў, якія маглі прымаць удзел у паўстанні?**

— Так, у любых генеалагічных даследаваннях слоўнік таксама можа быць выкарыстоўвацца. У кнізе ўказваецца не толькі імя і прозвішча паўстанца, але і яго сваяцкія сувязі: браты, сёстры, сыны, жонкі… Можа, не ў дачыненні да кожнай асобы, але звесткі ёсць. Таму нашчадкі, якія жывуць у розных краінах свету, могуць хаця б пастарацца пашукаць тут штосьці пра сваіх продкаў.

Увогуле, гэта не першае выданне, падрыхтаванае архівам у кірунку біяграфістыкі. Ужо шмат гадоў рэалізуецца праект «Гербоўнік беларускай шляхты»: сёлета плануецца выданне чацвёртага тома. Летась пабачыла свет грунтоўная аб'ёмная праца Дзяніса Лісейчыкава «Святар у беларускім соцыуме», прысвечаная ўніяцкім святарам у Беларусі. У найбліжэйшай перспектыве — выданне біяграфічнага даведніка па мінскіх губернатарах, віцэ-губернатарах і губернскіх маршалках перыяду Расійскай імперыі. Усе гэтыя працы выклікаюць самую вялікую ўвагу. Біяграфістыка — вельмі перспектыўны кірунак і вельмі лагічны, бо Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі — самае вялікае ў краіне сховішча дарэвалюцыйных рукапісаў.

**— На жаль, я не бачу ў кнізе паўстанцаў са сваім прозвішчам… А вы самі пра каго-небудзь са сваіх продкаў тут адшукалі б звесткі?**

— Не, нікога з маіх продкаў тут таксама няма. Але адзін дакумент, які патэнцыяльна можа быць звязаны з маёй сям'ёй, мне вядомы. Мае продкі — з-пад Васілішак, і дакумент сведчыць пра тое, што ў мясцовым касцёле быў зачытаны паўстанцкі маніфест. Але ён не аказаў ніякага ўражання на сялян, і яны спакойна разышліся па хатах. Верагодна, сярод тых, хто разышоўся, і былі мае продкі.

**— Ці сталі вядомыя новыя факты пра паўстанне ў цэлым і яго ход дзякуючы такому грунтоўнаму даследаванню спраў паўстанцаў?**

— Удалося ўдакладніць персанальны склад вялікай колькасці паўстанцкіх атрадаў. Як правіла, у нашай гістарыяграфіі атрады фігуруюць пад агульныміназвамі — барысаўскі, слуцкі, навагрудскі. І персаналіі, што ў іх уваходзілі, акрамя камандзіра і некалькіх асоб з кіраўніцтва, у большасці выпадкаў нам дагэтуль былі невядомыя. Падчас працы над слоўнікам удакладнены склад чэрыкаўскага атрада пад кіраўніцтвам Людвіка Звяждоўскага, які дзейнічаў на Магілёўшчыне. Нам сталі вядомыя імёны іншых удзельнікаў атрада, час і месцы, калі да Звяждоўскага далучаліся паўстанцкія групы, а таксама іх склад. У новай кнізе ёсць падрабязны геаграфічны паказальнік, які змяшчае назвы вёсак (яны прыводзяцца ў сучасным напісанні), валасцей, паветаў, губерняў, таму кожны з нас можа паспрабаваць высветліць, як паўстанне адбілася на стане малой радзімы.

**— Думаецца, падобнае выданне мела б большы попыт, калі б змяшчала фотаздымкі паўстанцаў…**

— Выяў няма, бо, на жаль, у матэрыялах нашага архіва фотаздымкі паўстанцаў адсутнічаюць. Выглядае на тое, што ў свой час была праведзеная мэтавая кампанія па іх выняцці са спраў і перадачы на асобнае захаванне. Думаю, гэта магло адбыцца яшчэ ў часы Расійскай імперыі. Фотаздымкі час ад часу згадваюцца ў справах, але ні ў адным вопісе, складзеным яшчэ да рэвалюцыі, я іх так і не знайшоў.

**— Праца па даследаванні біяграфій удзельнікаў паўстання ўжо скончаная?**

— Зусім не! Апрацаваныя яшчэ далёка не ўсе матэрыялы, якія захоўваюцца ў нашым архіве. Шмат спраў паўстанцаў знаходзіцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне, у архівах у Вільні, Варшаве і Санкт-Пецярбургу. Не хочацца спыняць гэтую справу на паўдарозе. Кожны дзень стараюся пэўны час папрацаваць над папаўненнем слоўніка, апрацаваць хоць некалькі аркушаў матэрыялаў з нашага архіва. Будзем спадзявацца, што праз пэўны час мы пабачым новае выданне кнігі, больш поўнае і ўдакладненае.

Марына ВЕСЯЛУХА

# Музы ў залюстроўі

## Ці ёсць у выданні жаночага жывапісу водгалас сексізму?

**Усё некалі здараецца ўпершыню, і па прычыне першапраходніцтва падзея прыцягвае больш увагі, становіцца асабліва важнай і знакавай, набывае сэнсы гістарычнага маштабу. Унікальная, беспрэцэдэнтная, выключная. Нонсэнс. Першы крок, першае слова, першая выстаўка, першая перамога, пілотны выпуск. На пачатку сакавіка ў «Галерэі мастацтва», у Мінску, быў прадстаўлены альбом жывапісу «Высокі густ» — першы ў сваім родзе. Працэс яго стварэння звязаны з жаночымі імёнамі, героямі сталі яны ж. 140 работ дваццаці сямі мастачак розных часоў і стыляў. Гэта першае выданне-даследаванне беларускага жаночага жывапісу.**




Разам з гэтым у галерэі працавала дзесяцідзённая выстаўка аўтарак, прадстаўленых у альбоме. Гасцей на адкрыцці сустрэла прывітальным словам міністр інфармацыі Лілія Ананіч. Кніга пабачыла свет у выдавецтве «Бяловагруп». Уступнае слова да выдання напісала мастацтвазнаўца, дырэктар Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў Наталля Шаранговіч. Алена Лагоўская, дырэктар галерэі, дзе прайшла прэзентацыя і выстаўка, плюс яшчэ дваццаць сем жаночых імёнаў — усе актыўныя пераўтваральніцы прасторы. Алена Бараноўская, Наталля Іванова, Вікторыя Ільіна, Святлана Каткова, Ганна Сілівончык, Вольга Шкаруба...

«Раней у нас не выдавалася кніг, у якіх акцэнтавалася б увага на жанчынах-мастачках, — кажа доктар мастацтвазнаўства і прафесар Вольга Бажэнава. — Прыкладна шаснаццаць гадоў таму мяне папрасілі назваць беларускіх мастачак XVI — XVIII стагоддзяў. Я разгубілася, бо не магла ўспомніць ніводнага імя, я спрабавала параіцца з беларускімі даследчыкамі, але ў адказ было маўчанне. Да XX стагоддзя жанчына-мастачка, тым больш вядомая, — нонсэнс. І нядзіўна, бо вы памятаеце, што Адаму наканавана зарабляць, а Еве нараджаць. Калі я глядзела біяграфіі роду Радзівілаў, заўважыла, што ў жанчын пазначаецца дата не нараджэння, а замужжа. У гісторыі тых часоў жанчына магла быць прадстаўлена не як творца, а як святая, каралева і, вядома, як муза. Шаснаццаць гадоў таму я змагла назваць толькі сем імёнаў, за гэты час даследчыкі дадалі яшчэ тры. «Высокі густ» прадстаўляе княгінь, каралеў беларускага жывапісу».

Да моманту выдання альбома «Высокі густ» весці гаворку пра гендарную няроўнасць і дакладнае размежаванне абавязкаў паміж жанчынамі і мужчынамі ўжо не даводзіцца. І нават больш за тое: у адной гутарцы са знаўцам беларускай нацыянальнай культуры выявілася, што фемінізм ужо на працягу некалькіх стагоддзяў з'яўляецца традыцыйнай сістэмай поглядаў беларусаў. У выданні ж «Высокі густ» можна ўбачыць водгалас сексізму, маўляў, выданне альбома жаночага жывапісу толькі падкрэслівае, што такое мастацтва з'яўляецца выключэннем, а запраўляюць у гэтай сферы ўсё роўна мужчыны.

Але ж я бачу ў аснове гэтага размежавання — на мужчынскі і жаночы жывапіс — больш глыбокія матывы іншага кірунку. І вызначаюцца яны самой прыродай — рознасцю мыслення, пачуццяў і эмоцый прадстаўнікоў розных палоў. Вольга Бажэнава на прэзентацыі сказала, што «жанчыны размаўляюць па-іншаму і часта пра тое, што да гэтых часоў не пачута да канца». Вось каб паспрабаваць выявіць гэтую рознасць — тонкую, няўлоўную, невідавочную, варта з «Высокім густам» пазнаёміцца. Дарэчы, назва ўжо аддае пахам самалюбства. Высокі густ чытаецца як прыродная ўласцівасць жанчын: хто нас яшчэ пахваліць, як не мы самі?

Усе тэксты ў кнізе прадстаўлены на рускай і англійскай мове, што робіць альбом выдатным падарункам для замежных сяброў. Яны і зацікавіліся беспрэцэдэнтным беларускім выданнем: прэзентацыю і адкрыццё выстаўкі наведалі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія Петэр Дэтмар, першы саветнік Пасольства Рэспублікі Сербія Ніра Егдзіч, трэці сакратар Пасольства Рэспублікі Таджыкістан Шахін Самадзі і іншыя.

27 мастачак — не поўная колькасць аўтарак, якіх можна было б змясціць у альбоме. На шчасце. Але для агульнай карціны, выяўлення духу, падабенства і рознасці беларускага жаночага жывапісу дастаткова. І для акцэнтавання ўвагі на небанальным. Мы кажам пра тое, што да гэтых часоў не пачута да канца.

**Ірэна КАЦЯЛОВІЧ**

*Прэзентацыя*

# Па краіне замкаў

**Пабачыў свет другі выпуск электроннага часопіса для дзяцей «Музейныя вандроўкі» — сумеснага праекта Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь і кампаніі Velcom. На гэты раз аўтары прапануюць маленькім чытачам разам з бацькамі выправіцца ў падарожжа ў часе і прасторы, звяртаючы асаблівую пільную ўвагу на беларускія замкі. Чаму нашы землі раней называлі «краінай замкаў»? Як продкі выбіралі месца размяшчэння абарончых збудаванняў? Чаму князі ВКЛ мелі некалькі рэзідэнцый па ўсёй дзяржаве? Чым прыватныя замкі адрозніваліся ад дзяржаўных?**

Адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні — на старонках новага выпуску часопіса. Разам з хлопчыкам Васільком і птушачкай Цікаўкай (а гэтыя героі нам вядомыя ўжо з першага нумара выдання) дзеці будуць разгадваць рэбусы і загадкі, кіруючыся адмысловай картай і стужкай часу, вандраваць па Беларусі, вывучаць віды абарончых збудаванняў і слухаць цікавыя гісторыі.

А як жа без іх? Замкавыя муры — сведкі важных падзей у гісторыі краю, яны бачылі знакамітых князёў, сузіралі вялікае каханне, дзяржаўныя здрады і нават забойствы!

Вельмі важным складнікам выдання з'яўляецца яго адукацыйны і інфарматыўны аспекты. Так, дзеці даведаюцца, што хаваецца за тэрмінамі *байніца*, *вал*, *дзядзінец*, *герса* (металічная або каваная жалезам дубовая пад'ёмная рашотка, што ахоўвала ўваход у замак), *машыкуль* (шэраг байніц). На нагляднай карце пабачаць, якія з беларускіх замкаў дайшлі да нашых дзён, а якія былі разбураныя і не захаваліся. Прачытаюць мноства цікавых гісторый пра побыт у замках, забавы шляхты і нават пабачаць рэпартаж-экскурсію з княжацкай рэзідэнцыі XVII ст. Даведаюцца, што абаранялі нашы землі маглі не толькі сцены замкаў, але і вежы, цэрквы-крэпасці і нават дамы-замкі.

Адметна, што змест «Музейных вандровак» — не сумны і не нудны, выданне багата ілюстраванае і сапраўды змяшчае самыя-самыя цікавыя факты. Да прыкладу, распавед пра тое, як Мядзельскі замак быў заваяваны з-за... каровы! Няшчасная жывёла стала «здрадніцай», бо ненаўмысна правяла ворагаў па таемным мосце, схаваным пад вадой. Або жахлівая гісторыя пра зняволенне князя Вітаўта ў Крэўскім замку і яго шчаслівае выратаванне, што адбылося дзякуючы служанцы і яе касцюму.

Словам, аўтары і ўкладальнікі часопіса не расчаравалі і на гэты раз. З яго зместам можна пазнаёміцца пакуль толькі на сайце гістарычнага музея (ён у бясплатным вольным доступе), але фундатары спадзяюцца, што хутка «Музейныя вандроўкі» будуць выдавацца і на паперы.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Узровень Сапажкова




**Калі гаворка ідзе пра кнігу, немагчыма не звярнуць увагу на асобу творцы. Назва «Дай полымю ля полымя астыць» — яскравае адлюстраванне найтанчэйшых граней унутранага свету яе аўтара, паэта і перакладчыка Юрыя Сапажкова.**

Юрый Міхайлавіч пакінуў гэты свет улетку 2013-га. Але ж, як вядома, пісьменнік жывы, пакуль жыве яго слова. На прэзентацыю зборніка Сапажкова ў Мінскую абласную бібліятэку імя А. С. Пушкіна завіталі паплечнікі, сябры, калегі паэта. У кожным радку кнігі «Дай полымю ля полымя астыць» выяўляецца сутнасць паэта-лірыка.

«И будь я с северянкой не помолвлен, / Я в грозовую ночь бы в горы убежал, / И наломал бы там охапку молний, / И светом их тебя короновал...» Гэтымі радкамі Юрыя Сапажкова падчас імпрэзы пачаў сваю прамову-ўспамін рэдактар аддзела прозы часопіса «Нёман» Алег Ждан.

Паэтам ва ўсіх сэнсах слова назваў Сапажкова пісьменнік Валянцін Маслюкоў. «Калі яго не стала, у маім жыцці ўтварылася пустэча, якую адчуваю і па сённяшні», — заўважыў Валянцін Сяргеевіч. Юрый Сапажкоў, выбітны паэт, быў яшчэ і на дзіва абаяльным чалавекам, хоць, як узгадваюць, з даволі складаным характарам. Пераклады яго вершаў на беларускую прадставіў публіцы паэт Мікола Шабовіч, а паэтэса Таццяна Шпартава прачытала ўласны верш-прысвячэнне творцу.

Пісьменнік і літаратуразнаўца Анатоль Андрэеў падкрэсліў, што ў сваёй творчасці Юрый Сапажкоў прынцыпова трымаўся пэўнай мастацка-эстэтычнай мяжы. «Узровень Сапажкова ўзыходзіць да традыцый Залатога веку рускай паэзіі», — упэўнены Анатоль Мікалаевіч.

«Ты не мечтатель больше, ты мудрец. / А мудрецов мечта не занимает...» — пісаў Юрый Сапажкоў, быццам падсумоўваючы свае творчыя набыткі, падводзячы вынік зямнога шляху. Нібы дапаўняючы яго словы, паэт Вадзім Спрынчан прадэкламаваў уласныя радкі, прысвечаныя памяці творцы: «Мне дорог Юрий Сапожков / Как человек и как поэт. / Остался свет его стихов, / Где есть любовь, а смерти нет».

**Яна ЯВІЧ**

Скарбонка мудрасці

# Рыфмаванае маўленне землякоў

**Летась Нацыянальная акадэмія навук Беларусі выдала вялізную кнігу «Беларускі фальклор. Матэрыялы і даследаванні. Выпуск 2». Там змешчана і каля 150 народных песень, запісаных мною ў Міёрскім раёне — Бабышках, Даўгінаве, Латышах, Лявонпалі. У багатых запасніках думання і маўлення Андрыяна і Ядзінні, Маруты і Марылі, Альжбеты і Адэлі, Вольгі, Васіля, Любы, Петрака, Стася я ўзбагаціўся не толькі старажытнымі песеннымі творамі з багатай народнай спадчыны, але і лексічнымі пярлінкамі — прымаўкамі, каламбурамі, прысяганнямі, павучаннямі, дражнілкамі, кленічамі… Любімае азначэнне такіх выслоўяў-вясёлашчаў у Рыгора Барадуліна — прыбабунькі.**

З назапашаных на лексічнай пашы скарбаў я выбраў толькі тыя аздабленні ў гаворцы маіх землякоў, якія маюць рыфму: няважна, поўную ці няпоўную, мужчынскую ці жаночую, каранёвую ці банальную, выпадковую ці глыбокую… Я ўзварушана слухаў, як граюць вусны ва ўсмешцы, назіраў, як сарамлівеюць вочы…

З IX — X стагоддзяў жыве рыфма ў славянскай вершатворчасці. А якая глыбокая вершатворчасць у валачобных песнях, пачутых ад Андрыяна Кісляка! Падышоўшы да чарговага акна, яму кожны раз прыходзілася прыдумваць новыя велікодныя зычэнні пасля абавязковага рытуальнага тэксту:

*Гаспадару, слічный пану,*
*Глянь — на дворы што дзеіцца,*
*Што дзеіцца-лялеіцца.*
*Ў тваім дварку як у райку!*

Рыфма на Беларускім Мацерыку даходзіла да натхняльнай Музы паэта, штодзённа жыла на вуснах кожнага трапяткога чалавека — для пахвальбы і суціху суседа, для ўганаравання Яго ці фрывольнай прыманкі Яе…

Але пачнём слухаць народ — для агульнай, як кажуць, карысці.

***

*З сынам сварыся — на печ кладзіся.*
*З зяцем сварыся — за клямку бярыся.*

***

*Каб не ты, ды не Мікіта, —*
*была б хата не пакрыта.*

***

*Без вусоў, без барады —*
*як той чорт малады!*

***

*Пра воўка памоўка,*
*а мядзведзь з-пад налуску ды за гуску.*

***

*Якое дрэва, такі і клін.*
*Які бацька, такі і сын.*

***

*Еш, пакуль рот свеж!*

***

*Саракі гоняць снег да ракі.*

***

*Чужое ем — і глух, і нем.*
*А калі маё ядуць,*
*у мяне слёзы цякуць.*

***

*Не ведае правіца, што робіць*
*лявіца.*

***

*Не маніся, а Богу маліся!*

***

*Жыць — не мяшок шыць.*

***

*Калі пераначуем,*
*тады болей пачуем.*

***

*Ну і нос:*
*чорт семярым нёс.*

***

*Вырас пад неба,*
*а дурны як трэба.*

***

*За грошы будзеш харошы.*

***

*Для чаго бабе ногі?*
*Каб не збіўся… я*
*з дарогі.*

***

*Не выбірай дзеўку на ігрышчы,*
*а выбірай на ржышчы.*

У прысадах народнай творчасці (сам аднаго разу падыгрываў велікоднікам) выгукваліся мае вершы на хутары Бабышкі, у мястэчку Лявонпаль. Бабулька Альжбета вучыла, каб у радку было пабольш галосных: ДЫ нЕ кУкУй жА, зЯзЮлЕнькА, рАнА… І яе песні ўвайшлі ў выдадзены заўзятым фалькларыстам Сержуком Доўгушавым дыск «Пад ясну зарыцу» (песенна-абрадавая традыцыя Міёршчыны па матэрыялах аўдыякалекцыі С. Панізніка. Запіс 1968 — 1969 гадоў). Ёсць надзея, што з дапамогай кіраўніка гурта «*Vuraj*» выйдзе і кампакт-дыск пра лявонпальскае вяселле 1969 года.

### Пад ясну зарыцу!

Верш-прысвячэнне Сержуку Доўгушаву
(у падзяку за выданне фальклорнай спадчыны маіх землякоў)

*Пад ясну зарыцу*
*мы выйшлі адкрыцца:*
*зямля не знямела, —*
*гучыць яна смела!*
*І добрыцца хмара*
*над родным папарам.*
*А песня прачнецца —*
*радзіма ачнецца.*
*Каб знікла пустэча,*
*імкнёмся на веча*
*да продкаў парога.*
*Зноў стане нас — многа!*
*З бяседнага схода*
*раскрыляцца песні,*
*каб нацыю несці*
*туды, дзе свабода —*
*пад ясну зарыцу.*
*…Спаўна ганарыцца*
*такому народу:*
*мы гучныя — зроду!*
*Умеем узвіцца*
*і мы над маўчаннем.*
*Пад яснай зарыцай*
*Жыццё велічаем!*

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# На ўсе густы

## Каля 50 моў будзе прадстаўлена на лінгвістычным свяце

**Цікавіцеся мовамі і культурамі іншых народаў? 27 сакавіка адбудзецца IV Мінскі фестываль моў. Мерапрыемства ладзіцца на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Арганізатары гарантуюць пазітыўную атмасферу і шмат цікавай інфармацыі! Аснова фестывалю — прэзентацыі асобных моў: міні-лекцыі працягласцю 45 хвілін. За адну акадэмічную гадзіну прэзентатар паспее звярнуцца да гісторыі мовы, навучыць вымаўляць патрэбныя ў стасунках словы, распавядзе пра асаблівасці культуры адпаведнай краіны.**

Зрэшты, кожны выступоўца рыхтуе сваю арыгінальную праграму.

На лінгвістычным свяце будзе прастаўлена каля 50 моў, сярод якіх не толькі папулярныя між беларусаў польская, англійская, нямецкая, іспанская, але і больш экзатычныя... Фестываль — добрая магчымасць пазнаёміцца з мовамі азіяцкіх краін: Кітая, Японіі, Карэі. Будзе прадстаўлена і персідская мова (фарсі), якой карыстаюцца ў Іране, Афганістане і Таджыкістане. Фарсі мае тры блізкародныя варыянты — асобныя нацыянальныя мовы ў гэтых краінах. Наведвальнікаў таксама чакаюць расповеды пра санскрыт, хіндзі, наваха — адным словам, мовы на ўсе густы!

Пералік моў і расклад прэзентацый можна напярэдадні знайсці на сайце *minsklingfest.by*.

У праграме таксама прадугледжаны сустрэчы іншага фармату.

Прэзентатары фестывалю — гэта студэнты, аспіранты і выкладчыкі універсітэтаў. Свята зацікавіць гасцей разнастайнасцю моў і культур і, магчыма, натхніць на вывучэнне новай мовы. Дарэчы, аналагічныя фестывалі адбываюцца ў розных краінах свету.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Лірычныя павевы




**Калектыўны зборнік «Старонкі няспыннага часу», што пабачыў свет у выдавецтве «Каўчэг», выкананы ў выглядзе фаліянта. Выданне было прэзентавана ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна падчас чарговага пасяджэння народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца». Зборнік уключае творчыя здабыткі больш як паўсотні паэтаў, многія з якіх — члены Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

Паэтычны праект «Старонкі няспыннага часу» вытрымлівае традыцыі, якія фарміруюцца ў «Жывіцы» другое дзесяцігоддзе. Аўтары зборніка — роўныя і розныя. Роўныя — без узаемарэўнасці, з гатоўнасцю прыўнесці асабістае ў агульнае, з трапяткім і дапытлівым стаўленнем да Паэзіі. Розныя — пабытавым і літаратурным досведам, характарам, творчым падыходам. Шырокі тэматычны і эмацыянальны дыяпазон, здольнасць бачыць жыццё ў аб'ёме, успрымаць чужы боль робяць зборнік шматмерным, дазваляюць адчуць паэтычнае слова і ўявіць літаратурны працэс.

Асаблівасць зборніка «Старонкі няспыннага часу», як і іншых паэтычных праектаў клуба «Жывіца», у тым, што на адной пляцоўцы выступаюць і дэбютанты-пачаткоўцы, і самародкі, і абазнаныя прафесіяналы. Апроч рэалізацыі творчых здабыткаў, кніга дае магчымасць паэтычнага ўдасканалення або параўнання на ўзорах цікавых твораў, дазваляе вызначыць уласны патэнцыял.

**Юрась НЕРАТОК**

# «Дударочкі-дудары»

## Іх творчы імпэт пакарае залы

**Ансамбль «Дударыкі» па родзе сваёй прафесійнай дзейнасці ведаю ўжо амаль 40 гадоў: на маіх вачах адбываліся яго станаўленне і развіццё, давялося неаднойчы падтрымліваць і спрыяць яго працы, быць удзельнікам многіх важных падзей у калектыве, пабываць разам у многіх канцэртных паездках.**



*Ансамбль «Дударыкі».*

### ТРЫУМФ У ПАРЫЖЫ

Мабыць, самым памятным для мяне засталося выступленне «Дударыкаў» у Парыжы, у штаб-кватэры ЮНЕСКА, падчас урачыстага пасяджэння, прысвечанага 60-годдзю далучэння Беларусі і Расійскай Федэрацыі да ЮНЕСКА. Хваляванні перапаўнялі і кіраўнікоў, і ўдзельнікаў яшчэ і таму, што ў канцэрце браў удзел і славуты Нацыянальны рускі акадэмічны народны хор імя Пятніцкага. 30-хвіліннае выступленне (такі быў рэгламент для абодвух калектываў) прайшло на адным дыханні: ярка, дынамічна і непаўторна. Вянок веснавых песень змянялі ашмянская і смаргонская кадрылі, чэрніцкія найгрышы, вальсы, крупіцкая полька ў апрацоўках В. Давідовіча, М. Сіраты, У. Грома. Творчы імпэт і шчырыя беларускія ўсмешкі пакарылі залу. Для большасці гледачоў выступленне «Дударыкаў» было сапраўдным адкрыццём! А за кулісамі за выступленнем «Дударыкаў» з цікавасцю назіралі артысты хору імя Пятніцкага. Пасля сумеснага канцэрта сабраліся разам, каб зрабіць агульны фотаздымак...

Яшчэ доўга ў вялікім холе, дзе была размешчана выстаўка, гучала беларуская музыка, многія з зацікаўленасцю знаёміліся з беларускімі народнымі музычнымі інструментамі, якія ансамбль прывёз са сваёй калекцыі: фатаграфавалі, бралі ў рукі, спрабавалі іграць, фатаграфаваліся з удзельнікамі ансамбля. Саветнік Прэзідэнта Расіі Міхаіл Швыдкой пасля канцэрта прыйшоў да «Дударыкаў», каб выказаць захапленне…

### ЮБІЛЯРЫ ШЧЫРАВАЛІ

Нядаўна заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь фальклорны ансамбль «Дударыкі» адсвяткаваў 45-годдзе. На працягу амаль трох гадзін адбывалася яркае відовішча, дзе юбіляры шчыравалі, прымалі шматлікія віншаванні…

Сёння фальклорны ансамбль «Дударыкі», створаны ў 1970 — 1971 гадах выдатным музыкантам Дзмітрыем Ровенскім, — адзін з самых яркіх і адметных дзіцячых калектываў краіны. Удзельнікі ансамбля, а іх разам з самымі маленькімі каля 60, не толькі выдатна валодаюць некалькімі музычнымі інструментамі (многія з якіх зроблены кіраўніком разам з дзецьмі), але і добра спяваюць і танчаць, ствараючы на сцэне яркія канцэртныя нумары і кампазіцыі. У рэпертуарнай палітры — разнастайныя народныя музычныя творы і песні, танцы, найгрышы на старадаўніх народных інструментах, а іх у ансамблі больш як 30 найменняў. Усе артысты ансамбля вучацца іграць, спяваць і танцаваць у сваёй роднай беларускамоўнай гімназіі № 14 г. Мінска. Многія бацькі спецыяльна пераводзяць дзяцей сюды, каб яны змаглі навучыцца іграць на народных інструментах і выступаць у «Дударыках». Створаны класы гармоніка, скрыпкі, цымбалаў, духавых інструментаў, народных спеваў і танцаў. Менавіта таму ў «Дударыках», упершыню ў краіне, дзяўчынкі зайгралі на барабане, бубне, гармоніку, дудцы, акарыне, жалейцы і нават на дудзе! Калекцыя музычных інструментаў «Дударыкаў» зроблена рукамі лепшых народных майстроў Беларусі Міхася Судніка, Мікалая Гайдукевіча, Мікалая Шастаковіча, Івана Лычкоўскага, Вячаслава Пратасевіча, Усевалада Жукоўскага, Івана Еўдакімава, Васіля Размысловіча, Алеся Лося, Віктара Кульпіна.

### МУЗЫЧНЫ КЛАС — У ХАЦЕ

Унікальнасць «Дударыкаў» яшчэ і ў тым, што тут стварыліся і асобныя мінікалектывы: ансамбль акарын, ансамбль дуд, ансамбль бубеністаў, ансамбль скрыпачоў, ансамбль гарманістаў, якія прадстаўляюць і свае арыгінальныя сцэнічныя нумары… Многія выкладчыкі музычных класаў ліцэя — Лаліта Ровенская, Аксана Ровенская, Людміла Сакалова, Яна Загумёнава, Ірына Чаюкова — іграюць і спяваюць у ансамблі, што стварае адзіную дружную творчую сям'ю… Вось як выказаўся мастацкі кіраўнік заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь «Крупіцкія музыкі», заслужаны работнік культуры Уладзімір Гром: «"Дударыкі" першымі адрадзілі шмат зыбытых беларускіх інструментаў. У іх кожны канцэртны нумар — гэта Нумар!» Спраўдзіліся словы народнага артыста СССР і БССР, старшыні Саюза кампазітараў Ігара Лучанка, якія прагучалі ў пачатку 80-х на адным з канцэртаў калектыву: "У гэтага ансамбля вялікае будучае". Невыпадкова пасля з'явілася і песня І. Лучанка «Дударочкі-дудары»…

У 2003 годзе ў гімназіі быў адкрыты музей народных музычных інструментаў, які налічвае каля 350 экспанатаў (64 найменні), большасць з якіх зроблены вядомымі беларускімі майстрамі. Удзельнікі ансамбля пераабсталявалі музычны клас пад звычайную сялянскую хату з бажніцай, цаглянай печчу, люлькай, калаўротам, абрусамі, куфрам і іншымі рэчамі сялянскага побыту. Усяго ж у двух музейных пакоях сабрана больш за 2000 экспанатаў. У канцэртах гучаць, як сапраўдныя музычныя інструменты, пілы, косы, набіліцы, шаргуны, маслабойкі, падковы, прасы. Ансамбль «Дударыкі» спецыялісты па праве называюць творчай лабараторыяй па адраджэнні і ўвядзенні ў музычную практыку раней забытых народных інструментаў.

### ЗАСЛУЖЫЛІ!

Поспехам і ўзнагародам «Дударыкаў» можа пазайздросціць любы творчы калектыў. Яшчэ ў 1993 годзе ансамблю было прысвоена ганаровае найменне "ўзорны", а ў 2010-м ансамбль адным з першых у краіне сярод дзіцячых калектываў стаў заслужаным аматарскім калектывам Рэспублікі Беларусь. Толькі за апошнія 5 гадоў «Дударыкі» атрымалі 9 Гран-пры ў розных краінах. Тройчы ансамбль і яго асобныя ўдзельнікі атрымлівалі гранты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. На працягу многіх гадоў «Дударыкі» займаюцца дабрачыннай дзейнасцю.



*Падчас канцэрта.*

Заслугі ансамбля — вынік шматгадовай працы ўсяго калектыву, былых і сённяшніх удзельнікаў. Але ж, безумоўна, галоўная роля належыць яго заснавальніку і мастацкаму кіраўніку Дзмітрыю Ровенскаму. Родам з Капыльшчыны, пераняўшы з рук у рукі ад свайго дзеда і бацькі навыкі традыцыйнага музыцыравання, ён ужо ў 12 гадоў іграў на 12 народных музычных інструментах. Потым набіраўся доследу ў «Капыльскіх дударах». Стварыўшы ў Мінску ансамбль «Дударыкі», Дзмітрый Ровенскі прынёс у ансамбль лепшыя традыцыі і творы з усіх куточкаў Беларусі, для многіх з іх зрабіў музычныя апрацоўкі. Плённа супрацоўнічаў з Уладзімірам Громам і іншымі апантанымі музыкамі, сфарміраваў асабістую калекцыю, многім інструментам з якой больш за 100 гадоў — ёсць нават цымбалы 1870 года. Нездарма ў 1995 годзе быў узнагароджаны Дыпломам ААН «За вялікі асабісты ўклад у захаванне і развіццё беларускіх нацыянальных традыцый». У 1999 годзе Д. Ровенскі атрымаў ганаровае званне «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь», у 2006-м — званне «Выдатнік адукацыі», а ў 2010-м стаў Мінчанінам года ў галіне культуры. А яшчэ Дзмітрый Ровенскі вельмі ганарыцца сваім сямейным ансамблем, у якім граюць і спяваюць 13 дзяцей і ўнукаў разам з апякункай жонкай Лідзіяй. Ансамбль таксама часта выступае і мае творчыя заслугі, станавіўся неаднаразовым лаўрэатам рэспубліканскага фестывалю сямейнай творчасці, фестывалю «Сям'я года» ў Мінску.

### АНСАМБЛЬ НАЗАЎЖДЫ

За 45 гадоў творчай дзейнасці «Дударыкі» далі каля 1900 канцэртаў, у тым ліку каля 550 — за мяжой. Калектыў вельмі цёпла прымалі ў Англіі і Шатландыі, Аўстрыі, Венгрыі, Германіі, Італіі, Латвіі, Польшчы, Паўднёвай Карэі, Расіі. Неаднойчы даводзілася бываць на канцэртах ансамбля «Дударыкі», радавацца і перажываць, адчуваць незвычайную атмасферу, якую стваралі артысты ў зале.

Выдатную школу «Дударыкаў» прайшлі больш за 500 удзельнікаў, 30 выхадцаў з ансамбля сталі прафесійнымі артыстамі. Але яшчэ больш важна, што тыя, хто прайшоў гэтую школу, засталіся адданымі народнаму мастацтву і нацыянальнай культуры. Гэта яшчэ раз давялося ўбачыць і падчас юбілейнай урачыстасці: сярод удзячных гледачоў добрую частку залы складалі і колішнія ўдзельнікі. Было многа цёплых віншаванняў, кветак, узнагароды Міністэрства культуры, Беларускага фонду культуры, Адміністрацыі Завадскога раёна... Але самым кранальным момантам урачыстасці стаў выхад на сцэну вялікай групы бацькоў удзельнікаў ансамбля…

Некалькі гадоў назад адданы прыхільнік ансамбля «Дударыкі» Мікола Шынкевіч прысвяціў ім паэтычныя словы:

*Да нашых дзён, як казачныя гукі,*
*Узнёслы іх фальклорны голас чуць.*
*Дарогай продкаў праўнукі і ўнукі*
*Адметна танчаць, граюць і пяюць.*

**Тадэуш СТРУЖЭЦКІ,**
**намеснік старшыні**
**Беларускага фонду культуры**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# «Чалавеку зручна жыць у прасторы, дзе ёсць гісторыя»

**— Што патрэбна, каб на працягу доўгага часу заставацца ў мастацкім працэсе і не сысці з дыстанцыі?**

— У чалавека, у якога ў душы і ў галаве няма любові, нічога не атрымаецца. Мне любоў да мастацтва прывіў у Нясвіжы таленавіты мастак Міхаіл Сеўрук. Я напачатку думаў стаць жывапісцам, хацеў быць як Рэпін, але неяк не склалася. На працягу творчасці ўва мне гарыць не звычайны газ, а сапраўдны агонь. Усё жыццё я ведаў, што павінен рабіць у мастацтве і як будаваць свой шлях.

**— Чаму не атрымалася стаць другім Рэпіным?**

— Паступіў у вучылішча, і праз пэўны час мяне забралі ў армію на тры гады. Выйшаў з арміі, а вакол нічога няма. Што рабіць? Ужо дарослы чалавек… Тады мастацтва зноў прыцягнула. Вярнуўся ў вучылішча на другі курс, а там усе малыя. А скульптуры вучылася група дарослых людзей — франтавікоў, якія мяне запрасілі да сябе. Так я і пайшоў у скульптуру. Не жаніўся доўга, бо разумеў: трэба стаць на ногі і працаваць шмат, каб дасягнуць чагосьці. Скончыў вучылішча ў трыццаць адзін год, і сітуацыя паўтарылася. Выйшаў з інстытута, а ў мяне ні майстэрні, ні працы. Спачатку пайшоў выкладаць у дзіцячай школе, пасля ў вучылішча, потым ва універсітэт. Калі з'явілася майстэрня, вырашыў: трэба кідаць усё і займацца творчасцю.

Акрамя Міхаіла Сеўрука, я вучыўся ў майстэрні скульптара, народнага мастака Беларусі Аляксея Глебава. Тады яшчэ не было будынка ўніверсітэта. Наша група ўсё за ім паўтарала, ён ляпіў — і мы ляпілі, ён нешта прыдумляў — і мы таксама. Пасля таго як з'явіўся будынак, тры гады я вучыўся ў скульптара Андрэя Бембеля. Усіх выкладчыкаў абагаўляў, бо разумеў: гэтыя людзі ведаюць, разумеюць больш, чым я.

**— Сяргей, з чаго пачаўся ваш шлях у мастацтве?**

— Мой шлях пачаўся дзякуючы таму, што я нарадзіўся ў сям'і мастака. Калі быў маленькі, мы жылі на вуліцы Каліноўскага. У тыя часы побач быў лес. Падабалася знаходзіць карчакі, падразаць іх, ствараючы невялікія працы.

**— Вы пераймалі тэхніку працы ад бацькі альбо ў вас індывідуальны падыход да скульптуры?**



*Сяргей Гумілеўскі «Дойлід Іаан».*

— Па шэрагу прычын мы з бацькам над многімі праектамі працуем разам, тым больш праца ў адной майстэрні гэта прадугледжвае. Але я заўважаю, што почырк у скульптуры ў мяне свой. Гэта прыкметна па многіх дэталях. Нашы працы адрозніваюцца, і я ўпэўнены, што так павінна быць. Бо ў кожнага аўтара сваё адчуванне формы, прасторы і часу. Не ўсе працы ў нас з бацькам агульныя. У мяне ёсць самастойныя праекты. У 2013 годзе праводзіўся конкурс: у горадзе Слуцку была абвешчаная праграма для адраджэння Слуцкіх паясоў. Я тады зрабіў дзве працы, якія, лічу, удала ўліліся ў прастору. Адна скульптурная кампазіцыя прысвечана ткачу. Яна знаходзіцца на ўваходзе ў фабрыку, а другая — на Цэнтральнай плошчы і нясе тую ж тэму — адраджэнне Слуцкага пояса.

**— Над якімі работамі сумесная праца з бацькам запомнілася вам найбольш?**

— Безумоўна, алея бюстаў у Нясвіжы. У гэтым праекце бацька ствараў свае бюсты, а я свае. Але праца прадстаўлена ў адзіным стылістычным рашэнні, таму, я лічу, гэта агульны праект. Разам стварылі надмагільны помнік Максіму Багдановічу ў Ялце, помнік Кірылу Тураўскаму ў Гомелі. Значнай працай для нас з'яўляецца помнік Янкі Купалы ў Маскве і трыпціх «Сказ аб Нясвіжы», які знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. З помнікам Францішка Багушэвіча ў Смаргоні атрымалася цікавая гісторыя. Бацька выйграў конкурс яшчэ ў 1990 годзе. Дваццаць гадоў мадэль прастаяла ў майстэрні, але ў 2010-м да Дзён славянскага пісьменства і культуры ў Смаргоні праект быў рэалізаваны. Гэта таксама больш работа бацькі: я падключыўся да працэсу толькі на стадыі выканання. Нельга не згадаць нашу агульную кампазіцыю «Балет», якая знаходзіцца побач з Вялікім тэатрам оперы і балета.

**— Зараз працуеце над новымі праектамі?**

— Так. Працуем над парнай кампазіцыяй Станіслава Манюшкі і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча для Верхняга горада. Калі ўсё будзе як плануем, у верасні да Дня горада ў скверыку паміж Ратушай і гатэлем «Еўропа» помнік будзе ўсталяваны. Для культурнай кампазіцыі было выбрана гэтае месца, бо раней там размяшчаўся Мінскі гарадскі тэатр, дзе ў 1852 годзе адбылася прэм'ера оперы «Сялянка». Было б добра, каб наш праект — помнік Максіму Багдановічу — таксама быў рэалізаваны, бо сёлета ў пісьменніка юбілей. У 2012 годзе на конкурсе ў Гродне наша работа была выбрана. Кампазіцыя прадстаўлена ў форме бюста, акружанага вянком. Сэнс, вядома ж, зразумелы: вянок не проста назва першага зборніка, а сімвал творчасці паэта.

**— Вы больш працуеце з канкрэтнымі вобразамі, абстрактная форма не прываблівае?**

— Пытанне вельмі важнае і тонкае. У маім разуменні скульптура не любіць дробныя тэмы, яна належыць вечнаму. Мае настаўнікі выхавалі такое адчуванне. Я бяру за аснову тэмы мацярынства, біблейскія сюжэты, гістарычныя факты. Але розныя мастакі вырашаюць тэму па-свойму. Кожны чалавек належыць да свайго часу, эпохі. Мне важна адлюстраванне часу ў скульптуры праз прызму асабістага адчування, лірычнага і рамантычнага.

Калі робіш працу рэалістычнага плана, то тут патрэбна ўважлівая падрыхтоўка. Заўсёды думаеш, як знайсці лепшы сродак, каб праца была выразнай, каб яна зайграла ў прасторы і аб'ёме. Гэта складаней, чым проста выгнуць дрот з жалеза і крычаць, што гэта і ёсць высокае мастацтва.

Напрыклад, сёння ў гарадской архітэктуры спрабуюць знаходзіць формы больш адвольныя. Мне здаецца, што чалавеку зручней жыць у прасторы, дзе ёсць гісторыя. Мы ж ездзім, напрыклад, у Прагу як у горад-музей. Бачым там на адным Карлавым мосце больш за сто пяцьдзясят скульптур. У Беларусі, на жаль, крыху іншая атмасфера. Мы знаходзімся ва ўрбаністычным асяроддзі. І, калі будзем насычаць яго бездухоўнай скульптурай, мне здаецца, страцім гармонію горада. Бо ў горадзе павінна прысутнічаць ідэя і духоўнасць. У сваёй кватэры не паставіш просты камень. Так і з гарадской прасторай: нельга мяняць яе на бяздушны механізм. Мы павінны пераймаць вопыт суседзяў і ператвараць Беларусь у краіну-музей, бо наша гісторыя гэта дазваляе.



*Леў Гумілеўскі «Дабравешчанне».*

**— Ці існуюць тэндэнцыі ў сучаснай беларускай скульптуры?**

— Штосьці казаць пра тэндэнцыі складана, але беларуская школа скульптуры, безумоўна, існуе. Такія прозвішчы савецкага часу, як Бембель і Глебаў, ужо пра многае гавораць. Яны ж і стварылі школу моцнага, рэалістычнага мастацтва, навучылі нас сапраўднаму майстэрству. Канечне, у нашы дні адбыўся разрыў паміж тым часам, у які мы вучыліся, і сучасным перыядам. Але ж, спадзяюся, прынцыпы засталіся тыя ж: скульптура павінна быць духоўнай, несці станоўчую, добрую энергетыку.

**— У большасці вы займаецеся гарадской скульптурай?**

— Бяруся за розныя праекты. Проста ў кожнага скульптара ёсць жаданне, каб работы ажывалі ў асяроддзі. Тым больш, калі тэма блізкая, стараешся адліць работу якасна, падкрэсліць усе дэталі, лініі. У выніку з'яўляецца жаданне, каб работу ўбачылі, ацанілі.

Скульптура — упрыгожванне прасторы. Для мяне гэта першаснова.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**



*«Апошняя прэзентацыя», 2016 г.*

# Кругасветнае падарожжа

## ў мастацкім свеце Анатоля Концуба

Вядомы мастак з Бабруйска Анатоль Концуб, які шмат гадоў прысвяціў кераміцы, а сёння актыўна займаецца жывапісам, падтрымку і парады знаходзіць у свайго анёла-ахоўніка. Мастак шануе яго і нават персанальную выстаўку, што дэманструецца ў галерэі «Мастацтва», назваў «Падарожжа з анёлам». Напэўна, факт веры ў Бога і ў сябе дапамагае майстру захаваць натхненне і жаданне быць патрэбным у творчай прасторы.

Галоўныя героі работ — канкрэтныя вобразы, што знаходзяцца ў незвычайнай для іх штодзённага стану прасторы. Напрыклад, рыбы не плаваюць у вадзе, а блукаюць сярод высокіх дрэваў з доўгімі галінамі, сядзяць за сталом з чыстымі талеркамі і нават абдымаюцца з людзьмі, а ў дзяўчын-прыгажунь, якія з заплюшчанымі вачыма марацца пра нешта высокае, замест залацістых валасоў выбіваюцца хвалістыя, litнакаляровыя кветкі. У тэхніцы жывапісу мастак амаль не выкарыстоўвае абстрактныя формы, а аддае перавагу змястоўнасці і канкрэтыцы.

Анатоль Концуб — майстар дэталізацыі. Для яго непрыкметная, маленькая травінка ўжо мастацкі аб'ект, які ён падкрэслівае колерам, вытанчанасцю ліній. Кожная работа ўяўляе апавяданне, разгорнутае, насычанае неверагоднай энергетыкай дабра і цеплыні. Падчас прагляду карцін узнікае жаданне зірнуць углыб сюжэта, працягнуць гісторыю. Ствараючы казачную, містычную атмасферу, мастак вядзе гледача па месцах натхнення. Тут і беларускія вёскі з драўлянымі дамамі, старымі лазнямі, і вясновы лес, які прачнуўся ад доўгіх маразоў, і высокія, прыгожыя дубы, што моцнымі галінамі цягнуцца да неба.

У творчасці майстра прасочваецца захапленне і любоў да роднай гісторыі. На палотнах ён паказвае гістарычных, рэлігійных персанажаў, якія быццам бы ажываюць і ўступаюць у дыялог з гледачом. Карціны дыхаюць свежым паветрам прыроды, пахамі сонечнай вясны. Яны дазваляюць злавіць імгненне душэўнасці, якому Анатоль Концуб ведае цану. Жывапіс аўтара характарызуецца шматгранным, шматзначным сюжэтам. Зразумець яго можна, але не адразу. Трэба падумаць, знайсці псіхалагічны кантэкст, і задума разгадаецца. Увогуле, выстаўка нагадвае кругасветнае падарожжа, экспедыцыю па часе, дзе атмасфера прыцягальная, лёгкая і вясновая.

Анатоль Концуб жыве і працуе ў Бабруйску, але ўдзельнічае ў рэспубліканскіх і замежных выставачных праектах, конкурсах. Яго прозвішча вядома ў гарадах Расіі, Балгарыі, Польшчы, Аўстрыі, ЗША і іншых краінах. Мастак захапляецца падарожжамі. Магчыма, гэты факт таксама паспрыяў вядомасці яго творчасці.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Драма на ўсе часы



### САКРЭТ РУХУ

Чаму опера «Макбет» на сталічнай сцэне атрымалася такой дынамічнай? Галоўную ролю адыгралі тры кампаненты: уключэнне ў лібрэта балетных сцэн, драматычная ігра артыстаў (а не проста прыгожае бельканта), магутнасць хору, які стварае эфект катарсісу, вар'іруючы смутак з пазітыўнай энергіяй. Так, менавіта хор стаў так званай «фішкай» прэм'еры дзякуючы прафесійнаму кіраўніцтву народнай артысткі Беларусі Ніны Ламановіч. Вельмі вялікая нагрузка легла на плечы спевакоў, бо ім, як і галоўным героям, прыйшлося іграць і выконваць харэаграфічныя нумары. Але самае каштоўнае ў тым, што галасы хору сталі яшчэ адным музычным інструментам, стваральнікам атмасферы, прычым месцамі нават больш каларытным, чым сам аркестр.

Балетныя нумары таксама істотна дапаўнялі оперу — іх пастаноўкай займаліся народны артыст Беларусі Канстанцін Кузняцоў і заслужаная артыстка нашай краіны Юлія Дзятко. Асабліва вызначыліся ведзьмы з хэлаўінаўскім грымам, вельмі харызматычныя, часам камічныя, але ў любым выпадку каларытныя. Яны стварылі неабходны кантраст на фоне сур'ёзных герояў, апранутых у шыкоўныя сукенкі і багатыя футры, таму сталі адным з самых арыгінальных рэжысёрскіх ходаў. У Вердзі партыя д'ябальскіх істот не была прапісана, ён замяніў іх жаночым хорам. Міхаіл Панджавідзэ зрабіў ведзьмаў ледзь не галоўнымі героямі — і не прагадаў. Тым больш, што іх пластыка вельмі нагадвала сучасную харэаграфію, што давала імпульс да пераасэнсавання «Макбета».

### МУЗЫКА ЯК СУТНАСЦЬ

Аркестр у оперы, паводле Вердзі, павінен папярэднічаць кожнаму дзеянню, ствараючы яго настрой, узмацняць перажыванні герояў. Дырыжыраваў аркестрам Вялікага заслужаны артыст Украіны Віктар Пласкіна. Музыка гучала выразна ў ключавых сцэнах: падчас забойства Дункана, дуэта Макбета і яго жонкі, у фінальнай карціне смерці злодзея... Але часам мелодыі як быццам не хапала, яна была нясмелай, сціплай, што супярэчыць настрою ўсяго твора, які павінен раскрываць цёмныя бакі свядомасці, пастаянныя пакуты герояў. Але, здаецца, градус напружання можна было падняць, даўшы музыцы прастор, зрабіўшы яе паўнавартаснай дзеючай асобай, а не фонам, хоць і зачаравальным. Дарэчы, тыя, хто лічыць оперу палегчанай, забываюць: паменшыў лібрэта сам Вердзі. Зразумела, змясціць нават у тры гадзіны ўвесь шэкспіраўскі тэкст з яго калізіямі і вобразамі было б нерэальна.

### СІМВОЛІКА ЗЛА

Самым відавочным сімвалам пастаноўкі стала павуціна — вялізная, памерам з заслону. Яна апускалася на сцэну са столі некалькі разоў у залежнасці ад вастрыні кожнай сцэны. Але з часам яе стала так шмат, што сімвалізм згубіўся... і зайграў з новай сілай толькі ў канцы оперы. Менавіта фінал мінскага «Макбета» стаў адкрыццём. Ведзьмы, што акружылі новага кіраўніка, як быццам абвяшчалі: «Зло, якое аднойчы ўварвалася ў свет, у сэрца, нікуды не знікне — яно будзе заўсёды, гуляючы ў «хованкі» з дабрынёй, захоўваючы баланс сіл». Не варта трактаваць гэта як безвыходнасць: чалавек не ідэальны, у ім заўсёды будуць два пачаткі — сумленнае і жорсткае. Але задумацца над чысцінёй душы варта. Раптам не зможаш ужо павярнуць назад?

Мастаком-пастаноўшчыкам оперы стаў уладальнік медаля Францыска Скарыны Аляксандр Касцючэнка, майстрам па касцюмах — народны мастак Расіі Вячаслаў Окунеў. Нічога не абцяжарвала пастаноўку, усё глядзелася гарманічна, акрамя галоўных дэкарацый дома Макбетаў. Злавесная канструкцыя з рашоткай пасярэдзіне сцэны выглядала так перакананча, што, здавалася, час ад часу «праглынала» артыстаў. Нават цудоўны, з люстраной спінкай, трон караля быў занадта далёка, каб удосталь атрымаць асалоду ад яго пышнасці. Многія еўрапейскія пастаноўшчыкі «Макбета», наадварот, імкнуцца да элегантнага мінімалізму: дзеянне адбываецца ледзь не на фоне «голых» чорных сцен, каб нічога не замінала сэнсу. Напрыклад, так адбываецца ў літоўскага драматычнага рэжысёра Эймунтаса Някрошуса, якім захапляецца Панджавідзэ.

### АХВЯРЫ *VS* ЗЛОДЗЕІ

У прэм'еры былі задзейнічаны ўсе галоўныя сілы тэатра. Давялося пабачыць караля ў выкананні Станіслава Трыфанава, якому ўдалося ўжыцца ў ролю Макбета вельмі дэтальна: ён не проста радаваў усіх сваім барытонам, а адлюстроўваў эвалюцыю героя з першага да апошняга дзеяння… Лэдзі Макбет (Таццяна Траццяк) справілася са сваёй роллю, яе голас гучаў напоўнена і роўна, але сам вобраз нагадваў хутчэй Міледзі Вінтэр з Аляксандра Дзюмы — і па абліччы, і па манерах. Па задумцы Вердзі, Лэдзі павінна была мець дэманічны голас і адпаведную, далёка не мілавідную, знешнасць.

### ПОШУКІ СЭНСУ

Ключавы матыў оперы — гарачае жаданне ўлады, прычым любой цаной. Гэтая тэма не страціць актуальнасці да таго часу, пакуль ва ўсіх краінах існуе свая палітычная сістэма і сацыяльная іерархія, да таго часу, пакуль у свеце ідуць войны. Заўсёды будуць людзі, у руках якіх магутнасць ператвараецца не ў імкненне сумленна кіраваць, а прыгнятаць і падпарадкоўваць. Опера пра злачынствы і кару не можа быць не сучаснай. І гэта вырашае ўсё. Але ці досыць адной толькі тэмы, без яе сапраўды поўнага раскрыцця?

Міхаіл Панджавідзэ бачыць (і паказвае) оперу «Макбет» як карціну пра слабасці да ўнутраных заганаў і спакус не аднаго чалавека, а ўсяго чалавецтва. Гэта агульнасацыяльная драма, а не проста містыка. Опера заклікае да сумлення і палохае ў добрым сэнсе. Калі адзін раз сысці са шляху праўдзівага, то ўжо, магчыма, наступіць момант, калі будзе позна ўбачыць выйсце…

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара.**

# …Якая небяспека ад зданяў?



*Фота Віктара Стралкоўскага.*

Пра гэта разважае інтрыган-Берман, які распавядае фальклярысту Беларэцкаму мясцовыя таямнічыя легенды (у аповесці Уладзіміра Караткевіча). Але небяспека можа быць нават ад таго, чаго, здаецца, не бывае ў рэчаіснасці, калі разглядаць паводле аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», увасобленай на сцэне Рэспубліканскага тэатра юнага гледача галоўным рэжысёрам Уладзімірам Савіцкім. Паводле яго версіі, ад зданяў мінулага бывае небяспека ў сучаснасці: калі яны не ідэнтыфікаваныя, іх роля не ўсвядомленая ці наогул невядома, куды вядуць сляды. Тады нашчадкі губляюць сябе ў забыцці. Напэўна, гэта тая мэта, дзеля якой варта браць да пастаноўкі такія творы, як аповесць Караткевіча. Гэтым, відаць, і кіраваўся рэжысёр, для якога вельмі важная ў тэатры тэма нацыянальнай культуры. Нават калі гэта тэатр дзіцячы.

Асабліва таму, што тэатр дзіцячы. Дзеці старэйшага школьнага ўзросту — ці не самая складаная група для тэатра. Іх зацікавіць, нават прыцягнуць у тэатр можна двума шляхамі: дзеля лепшага разумення школьнай праграмы і калі сапраўды цікава, як у Караткевіча… Але гэты варыянт выдатны яшчэ і таму, што паход у тэатр можа стаць святам для ўсёй сям'і — тэма і для дарослых. Таму варыянт для ТЮГа беспройгрышны. І нацыянальная тэма, і беларуская літаратура. І містыка з інтрыгуючым сюжэтам (асабліва для тых, хто яшчэ не чытаў твор). І нават для тых, хто чытаў, інтрыга ёсць: як гэта можа быць увасоблена на сцэне? Інсцэніроўка аповесці зроблена самім пастаноўшчыкам. Адлюстраваныя ўсе важныя моманты, акцэнты зробленыя на тэмы, якія былі важныя пісьменніку. А ён не пісаў пра мінулае дзеля мінулага, ён заўсёды ў мінулым імкнуўся ўбачыць будучыню. Тэма шляхты, славутых родаў, якія калісьці былі апорай краіны, а цяпер згубілі моц, дбаюць не пра ідэалы, якія б трымалі народ, а пра дробна-прыватнае, сваё, з-за чаго прыходзіць у занядбанне агульнае. Так, што толькі фальклярыстам застаецца потым паводле бываліц і легенд вывучаць гісторыю радзімы, якой няма… Толькі міфы ад яе засталіся на той час, пра які гаворка.

Нібыта міф нам і распавядаюць са сцэны артысты. Асноўнае дзеянне разгортваецца на подыуме (прастора ў прасторы), дзе героі існуюць, знікаюць, адкуль узнікаюць нечакана. Але па лесвіцы спускаецца кволая (!) Надзея Яноўская (актрыса Марта Шантар). Туды-сюды вылазіць і ўлазіць Ігнась Берман Гацэвіч (Андрэй Каралевіч), робіць свае таямнічыя справы Ахмістрыня (Ганна Казлова). Але гаспадаром на гэтым подыуме пачуваецца Дубатоўк (харызматычны артыст Купалаўскага тэатра Ігар Дзянісаў уведзены ў спектакль нездарма). Дубатоўк чакае паўналецця гаспадарыні маёнтка Яноўскай, а яна тут нібыта і не дома: ходзіць нібы здань. Нават госць Беларэцкі і тое больш упэўнены (Аляксандр Гладкі). Таму што вольны ад міфаў, якія штучна створаныя людзьмі дзеля выгод, не баіцца пачвар, якімі палохаюць мясцовыя. З пункту гледжання размеркавання роляў і задач героі выглядаюць пераканаўча. Сцэнічнае рашэнне (прапанаванае Віктарам Цімафеевым) даволі пластычнае, дазваляе вырашыць шэраг праблем: усё таямнічае ідзе знізу, з-пад дошак, якія трасуцца, нібыта на іх сапраўды скачуць нябачныя коні. Але тое, што яны ёсць, пазначана метафарай. Наколькі арыгінальнай і новай — іншае пытанне.

Таямнічасць мінулага, скіраваная ў дзень сённяшні. Гістарычная тэма абазначана ўмоўна: дакладнага гістарызму няма, і ён, можа, непатрэбны. Па касцюмах (мастак Дар'я Волкава) герояў вы не будзеце ў думках узнаўляць эпоху — яны пазачасавыя, што добра: сюжэт можна прымераць на сябе і наш час — ці не дзеля гэтага дыялогу эпох Караткевіч звяртаўся да гісторыі?

Рэжысёру, відавочна, Караткевіч блізкі. Таму што да яго Уладзімір Савіцкі звяртаецца не ўпершыню. Але сам па сабе гэты факт не мае ніякага дачынення да пастаноўкі ў ТЮГу: кожны тэатр мае правы на свайго Караткевіча. Таксама як і ў кожнага рэжысёра ён можа быць сваім. І не факт, што адчуванне пісьменніка пастаноўшчыкам будзе мяняцца ад тэатра да тэатра ці ад спектакля да спектакля. Што і назіралі апантаныя тэатралы, якія даўно сочаць за ўсімі пастаноўкамі ў рэспубліканскіх тэатрах. Прывіды мінулага калі мрояцца, то трэба шукаць, чаму? Гэты спектакль рэжысёр ужо аднойчы паставіў. Каб паставіць яго зноў. На вялікай сцэне. У гэтым тэатры. Таму што насамрэч тут самае месца для жыцця твора Караткевіча, у такім выглядзе: без нейкага мудрагелістага эксперымента, і пры гэтым пэўная ступень абстракцыі ёсць (каб не адштурхнуць, а прыцягнуць моладзь у тэатр). Пытанне, наколькі ў гэтай пастаноўцы адлюстраванае развіццё самога Уладзіміра Савіцкага як рэжысёра, няхай ён вырашае для сябе сам. Але як мастацкі кіраўнік тэатра ён мае рацыю: тут месца гэтага асветнага, адукацыйнага спектакля, які зробіць афішу больш разнастайнай і цікавай для рознай публікі. Таму што адно з пытанняў Уладзіміра Караткевіча, якое гучыць у аповесці ад імя Беларэцкага: «Хто я і якім багам павінен маліцца?» — дагэтуль актуальнае для беларускага грамадства наогул.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# «Лясная быль». Сучасны погляд

**Першай беларускай мастацкай стужцы «Лясная быль», знятай Юрыем Тарычам, сёлета спаўняецца 90 гадоў. Падчас прэм'еры фільма ў кінатэатры «Культура» быў сапраўдны аншлаг. Сёння мы, на жаль, не можам убачыць фільм у поўным варыянце, таму некаторыя моманты даюць прастору для фантазіі. Шмат міфаў існуе вакол гэтай ленты, і наша задача — іх пазбавіцца.**

## МІФ № 1. БЕЛАРУСКАЕ КІНО НАРАДЖАЛАСЯ Ў ЦЯЖКІХ УМОВАХ

Калі ў кінематографе Беларусі на пачатку 1920-х яшчэ не было сваёй вытворчай базы, нават хроніку не пачалі здымаць, ужо думалі пра вялікія мастацкія формы. «Наш кінематограф зараджаўся як чыстая авантура», — адзначае кіраўнік Музея гісторыі беларускага кіно Ігар Аўдзееў. У нас былі самыя спрыяльныя ўмовы для паспяховага развіцця кіно, сапраўднага творчага выбуху: падтрымка кіраўніцтва краіны, неабмежаваныя крэдыты, найноўшая тэхніка, закупленая ў Германіі... Але план вытворчасці фільмаў выконваўся «са скрыпам». У Беларусі на той час панаваў катастрафічны недахоп прафесійных кадраў у галіне кінамастацтва. Таму здымалі тыя, каго атрымалася літаральна «злавіць» і ўгаварыць. З Тарычам у гэтым плане пашанцавала. Ён толькі пачынаў свой шлях у рэжысёрскай прафесіі і браўся за ўсе праекты.

## МІФ № 2. ЮРЫЙ ТАРЫЧ АБРАЎ АСНОВУ ДЛЯ СЦЭНАРЫЯ З-ЗА СВАІХ РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ ПОГЛЯДАЎ

Чаму рэжысёр-пастаноўшчык, якому бліжэй былі маштабныя гістарычныя тэмы, узяў для сцэнарыя менавіта аповесць Міхася Чарота «Свінапас»? Аказваецца, усё было вырашана за яго. Творца нічога не выбіраў, яго проста запрасілі для рэалізацыі ўжо зацверджанага ў «Белдзяржкіно» праекта, літаральна прывезлі з Масквы. «Свінапас» стаў часткай плана па рэалізацыі беларускіх фільмаў у эпоху пачатка кінабуму. Маладое савецкае кіно тады адлюстроўвала тэмы, звязаныя з уваходам у свядомасць грамадства камунізму, а Міхась Чарот быў адным з самых прагрэсіўных паэтаў. Гісторыя ператварэння звычайнага селяніна, свінапаса, у свядомага байца Чырвонай Арміі на сто працэнтаў адпавядала павевам часу.

## МІФ № 3. ДАТА ВЫХАДУ ФІЛЬМА БЫЛА ЗАПЛАНАВАНА АДРАЗУ

«Лясная быль» павінна была выйсці на экраны годам раней, у 1925-м. Але гэтага не адбылося. Юрыю Тарычу прапанавалі іншую цікавую карціну, якая, дарэчы, з поспехам потым транслíравалася ў ЗША і прынесла рэжысёру сусветную славу: «Крылы халопа». Да «Лясной былі», тым не менш, ён вярнуўся. Увесь гэты час «Белдзяржкіно» знаходзілася ў чаканні. А што рабіць? Спецыялісты былі на вагу золата.

## МІФ № 4. «ЛЯСНАЯ БЫЛЬ» — ПРЫКЛАД НАВАТАРСКАЙ РЭЖЫСУРЫ

Кажуць, што «Лясная быль» задала тэндэнцыю, якая назіраецца ў беларускім кіно ўжо многія гады, — здымаць фільмы па літаратурных творах. Але гэта быў не творчы парыў, а выхад з цяжкай сітуацыі: сцэнарыстаў катастрафічна не хапала. Юрый Тарыч не выкарыстоўваў у сваім фільме амаль ніякіх аўтарскіх мастацкіх прыёмаў-пераасэнсаванняў. Ён цалкам перадаў атмасферу першакрыніцы, не адхіляючыся ад тэмы. Але ўсё ж такі быў матыў, які метафарай прайшоў праз увесь фільм, лірычна пераплёўся з яго назвай: вобраз неспакойных дрэў у лесе, што калыхаюцца ад ветру, ствараючы настрой трывогі, асаблівую псіхалагічную атмасферу, сугучную дзейнасці партызанскіх атрадаў у стужцы. Першыя словы субцітраў таксама сімвалічныя — «Лес шуміць».

## МІФ № 5. КІНО СТАЛА ПАМЯТКАЙ ПА ВАЕННАЙ ТАКТЫЦЫ

Цікава, што шмат хто называе «Лясную быль» ледзь не памяткай аператыўна-тактычнага майстэрства Чырвонай Арміі. На думку Ігара Аўдзеева, манеўраныя дзеянні вайскоўцаў у фільме, зразумела, ёсць, але батальныя сцэны не настолькі паказальныя. Іншая справа, што ў карціне сустракаюцца знакавыя асобы: напрыклад, Уладзімір Корш-Саблін, тады яшчэ асістэнт рэжысёра, будучы народны артыст СССР. Ён адыграў у «Лясной былі» польскага афіцэра, таму што сам быў кавалерыстам і валодаў верхавой яздой.



*Рэжысёр Юрый Тарыч.*

## МІФ № 6. МЕСЦАЎ, ДЗЕ ЗДЫМАЎСЯ ФІЛЬМ, АМАЛЬ НЕ ЎБАЧЫШ СЁННЯ

«Лясная быль» для сучаснага гледача — своеасаблівая машына часу. Нягледзячы на тое, што гісторыя ў кіно выдуманая, здымалася яно ў сапраўдных жыццёвых інтэр'ерах з удзелам простых людзей, народу. Рэальнасць трапіла ў кадр у вялікіх аб'ёмах — і гэта каштоўна», — адзначае Ігар Аўдзееў. Дэкарацыі для кінакарціны спецыяльна не рабіліся. Самым, мабыць, вядомым сёння месцам дзеяння стаў Палац графа Чапскага ў Прылуках, пад Мінскам (месца дыслакацыі пана Драбскага і яго світы). Дзіўна, але за столькі гадоў сядзіба выдатна захавалася. Што тычыцца панарам сталіцы, то можна лёгка знайсці ў кадры, напрыклад, месца скрыжавання Музычнага завулка і вуліцы Герцэна. Вельмі папулярны, дарэчы, кадр у наступных беларускіх фільмах.



*Кадр з фільма «Лясная быль».*

## МІФ № 7. «ЛЯСНАЯ БЫЛЬ» АДЛЮСТРАВАЛА САВЕЦКІЯ, А НЕ БЕЛАРУСКІЯ РЭАЛІІ

Падчас здымачнага перыяду з касцюмамі для герояў былі праблемы. Сяляне з масоўкі прыходзілі са сваіх вёсак ва ўласнай вопратцы. Але недахоп павярнуўся вялікім плюсам. У фільме вельмі дэталёва паказаны беларускі побыт, асабліва сялянскі. Юрый Тарыч стаў першым, хто звярнуўся да гісторыі і менталітэту нашага народа, рэалій краіны, хоць і ў пэўным ідэалагічным кантэксце, заклаў асновы самабытнага развіцця для, у наступным, кінастудыі «Беларусьфільм». Па словах Ігара Аўдзеева, беларускае кіно пачынала развівацца правільна. І мы шмат чаго маглі дасягнуць. Бо кінематограф кожнай краіны можа быць цікавы ва ўсім свеце толькі асабістым поглядам на агульначалавечыя праблемы. Юрый Тарыч упэўнены, што «Лясная быль» з'яўляецца дакорам для нашага сучаснага кіно, пацвярджэннем таго, што ў беларусаў ёсць свае традыцыі ў кінематографе, але яны чамусьці забыліся. Мы часта адыходзім ад сваёй самасвядомасці, пераймаючы замежныя тэндэнцыі. А гэта няправільна.

## МІФ № 8. КАЛІ ФІЛЬМ ПЕРШЫ, ТО ПАДБОР АКЦЁРАЎ СУР'ЁЗНЫ

«Галоўнай дзеючай асобай у ранніх савецкіх фільмах была рэвалюцыйная маса. Кіно павінна было паказаць народны парыў. Таму нават не акцёры, а выканаўцы падбіраліся выключна па тыпажным прынцыпе. Можаш быць рэвалюцыйным матросам? Падобны на буржуя? Бяром! Вопыт тэатральнай працы і акадэмічная адукацыя не ўлічваліся», — канстатуе Ігар Аўдзееў.

## МІФ № 9. СТУЖКА Ў ПОЎНЫМ ВАРЫЯНЦЕ ЗАХОЎВАЕЦЦА ЗА МЯЖОЙ

Спробы аднавіць кінастужку цалкам не ўвянчаліся поспехам. У замежных архівах яе поўнага варыянта не аказалася. На той час на Захадзе тэма сацыялістычнай рэвалюцыі мала каму была цікавай. Больш за тое, поўнага варыянта сцэнарыя ці мантажнай раскадроўкі няма нават у асабістай справе самога рэжысёра. Здаецца, ён сам пазбаўляўся ад доказаў напярэдадні сталінскіх рэпрэсій. «Дарэчы, ці ведаеце вы, што Юрый Тарыч зусім не ўраджэнец Полацка? Ён з'явіўся на свет у адным з польскіх гарадоў. А потым змяніў імя, каб не лічыцца варожым шпіёнам», — распавёў Ігар Аўдзееў.

## МІФ № 10. СТВАРАЛЬНІКІ ПЕРШАГА МАСТАЦКАГА ФІЛЬМА — НАРОДНЫЯ ГЕРОІ

Большая палова стужак, знятых да 1937 года ў СССР, трапіла пад рэпрэсіі. Чым жа паказалася варожай рамантычна-прыгодніцкая «Лясная быль»? Юрый Тарыч пайшоў на эксперымент. Уключыў у фабулу апавядання рэальных гістарычных персанажаў, якія прымалі ўдзел у аперацыі па вызваленні Мінска ў 1920 годзе падчас савецка-польскай вайны. У адной са сцэн у штабе засядаюць Аляксандр Чарвякоў, Язэп Адамовіч, Вільгельм Кнорын, распрацоўваючы тактыку баёў і абароны. Потым яны ўсе былі абвешчаны ворагамі. Як і, дарэчы, сам Міхась Чарот, без якога «Лясной былі» ўвогуле б не было. Са стужкі «выдалілі» і іншы кадр — момант яўрэйскага пагрому ў Мінску перад адступленнем белапалякаў. Па незразумелых да гэтага часу прычынах. Як бачна, гісторыя беларускага кіно — вялікае поле для дзейнасці і далейшых даследаванняў. Чаго яшчэ мы не ведаем?

**Марыя ВОЙЦІК**

***Праекты***

# Японія ў кадры

У мінскім кінатэатры «Перамога» з 31 сакавіка па 3 красавіка пройдзе рэтраспектыва японскіх фільмаў. Чатыры кінастужкі, прысвечаныя Тора-сану, самаму папулярнаму камедыйнаму персанажу, будуць прадстаўлены сталічным гледачам. Фільмы лёгкія, абаяльныя, але разам з тым удумлівыя, філасофскія.

Тора-сан — дабрадушны дзівак, запальчывы вандроўнік, але чалавек са шчырым сэрцам. Ён выхадзец з самага працяглага кінасерыяла ў свеце (што трапіў нават у Кнігу рэкордаў Гінэса) «Мужчынам жывецца цяжка» ад кінакампаніі «Сёцiку».

Арганізатарам паказаў выступіла дырэкцыя Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» пры падтрымцы пасольства Японіі, а таксама кампаніі *JTI*.

# На сцэне — музыкі-чарадзеі

Нядаўна ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі адбылася адметная падзея — канцэрт ансамбля салістаў пад кіраўніцтвам Ігара Іванова. Праграма складалася ўсяго з двух твораў: у першым аддзяленні прагучалі «Поры года» Пятра Чайкоўскага, у другім — «Малюнкі з выстаўкі» Мадэста Мусаргскага. Што асабліва ўзрушыла? Мы пачулі да дробязі знаёмыя цыклы ў нечаканым інструментальным выкананні — у квартэце народных інструментаў. Папраўдзе, у многіх былі сумненні адносна правамернасці такой задумы: ці будзе ўдалым гучанне фартэпіянных п'ес у спалучэнні такіх інструментаў, як домра, балалайка, баян і электра-бас гітара. Але вынік не толькі развеяў скептычныя прадчуванні, але і пераўзышоў нават добразычлівыя чаканні. Патрабавальнага філарманічнага слухача захапілі і своеасаблівая тэмбравая палітра, і вытанчаны густ музыкантаў, і іх дасканалы артыстызм. Салісты-віртуозы паўсталі адзіным, трывала адладжаным арганізмам, гучанне сведчыла аб найвышэйшай ансамблевай сталасці. Не пакідала думка і аб тым, што яны падышлі да такой якаснай рысы, калі творчае ўзаемаразуменне спалучаецца з мастакоўскай мерай, са шчодрым валоданнем усімі выразнымі элементамі музыкі. І «Поры года», і «Карцінкі з выстаўкі» ў сваёй сцэнічнай гісторыі знайшлі шэраг інтэрпрэтатараў. Прычым не толькі ў арыгінале. Шырокавядомыя, напрыклад, іх транскрыпцыі для сімфанічнага аркестра (А. Гаўк, М. Равэль, С. Гарчакоў, Л. Стакоўскі). Цэласнае ж іх выкананне ў камерна-ансамблевым складзе — рэдкасць, а ў народным інструментальным ансамблі — зусім не вядомае. Такі смелы падыход «народнікаў» да класічнай спадчыны не часты і ў нашым выпадку не беспадстаўны. Ён грунтуецца на першаснай установіцы ансамбля: выканальніцтва на народных інструментах ёсць гармонія жывой народнай традыцыі і высокай акадэмічнай культуры. Узнікла такая ідэя яшчэ ў задорны студэнцкі час у сценах Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. А адбылося ўсё вось як.

У1994 г. на факультэце народных інструментаў быў створаны дуэт у складзе студэнтаў 3 курса Ігара Іванова (балалайка) і Андрэя Сівакова (гатова-выбарны, мнагатэмбравы баян). Першыя яго поспехі прыйшліся на шматлікія выступленні ў Беларусі. У 1996 з творчасцю калектыву знаеміцца публіка Заходняй Еўропы (гастрольныя паездкі ў Германію і Францыю).

Праз год з'яўляецца задума стварыць інструментальны квартэт: да дуэта балалайка — баян далучаецца домра і бас-гітара. Такім складам калектыў гастраліруе па замежжы (зноў Францыя, Германія). Паралельна з развіццём квартэта працягваецца творчая дзейнасць дуэта. Ігар Іваноў і Андрэй Сівакоў вучацца ў асістэнтуры-стажыроўцы пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі па дысцыплінах «Сольнае выканальніцтва» і «Камерны ансамбль» (творчы і навуковы кіраўнік — прафесар В. А. Чабан). Таму з 1998 г. дзейнасць квартэта прыпыняецца. 1999 год мяняе прафесійны статут ансамбля: дуэт запрашаюць у Беларускую дзяржаўную філармонію, дзе калектыў працуе цягам двух гадоў. У гэты перыяд кожны з музыкантаў удзельнічае ў конкурсных спаборніцтвах і атрымлівае званне лаўрэата або дыпламанта міжнародных конкурсаў.

У 2001 г. аднаўляецца дзейнасць квартэта пад назвай «Славяне». У яго складзе: лаўрэат міжнародных конкурсаў Ігар Іваноў (балалайка), дыпламант міжнародных конкурсаў Андрэй Сівакоў (баян), лаўрэат міжнародных конкурсаў Алена Дзікавіцкая (домра), саліст Белдзяржфілармоніі Мікалай Абрамовіч (бас-гітара). Калектыў працягвае свой творчы шлях у адзеле БДФ «Філармонія для дзяцей і юнацтва».



З лістапада 2003 г. квартэт становіцца самастойнай творчай адзінкай Белдзяржфілармоніі і атрымлівае імя «Ансамбль салістаў Беларускай дзяржаўнай філармоніі пад кіраўніцтвам Ігара Іванова». Па змесце творчасці прытрымліваецца акадэмічнай скіраванасці. Пра гэта сведчыць рэпертуар і выканальніцкая культура. Але разам з творамі сусветнай музычнай класікі канцэртныя праграмы змяшчаюць апрацоўкі народнай музыкі і творы беларускіх кампазітараў.

Паступова ансамбль становіцца адным з самых запатрабаваных музычных калектываў Беларусі. З поспехам выступае ў Мінску, гастраліруе па Беларусі і замежжы: Германія, Італія, Кітайская Народная Рэспубліка, Францыя, Андора, Бельгія, Індыя, Туркменістан, Сірыя, Ліван, Расія.

А 2013 год быў юбілейным: калектыў адзначыў 10-годдзе. У сувязі з гэтай датай адбыўся шэраг канцэртаў па ўсёй Беларусі, а заключным акордам стала святочная справаздача ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі.

Неўзабаве склад ансамбля абнаўляецца: партыю бас-гітары выконвае студэнт БДАМ Глеб Грачанкоў. Музыканты ансамбля — пастаянныя ўдзельнікі міжнародных фестываляў «Беларуская музычная восень» (Мінск), «Мэрцішор» (Малдавія), «Творчая спадчына В. В. Андрэева» і «Андрэеўскія зоркі» (Расія), рэспубліканскага фестывалю «Памяці Г. І. Жыхарава», айчынных акцый «За моцную, квітнеючую Беларусь», «Мы беларусы», «Беларусь у маім сэрцы», «Майстры мастацтва — працаўнікам сяла!» і іншых.

Сёння калектыў вядзе актыўную асветніцкую дзейнасць сярод масавага слухача. За сваё хай не надта доўгае існаванне ў музычным жыцці Беларусі ён даў сотні канцэртаў з аншлагам. Багаты рэпертуар, адметнае выканальніцкае майстэрства збіраюць шырокую аўдыторыю, раскрываюць сэрцы да камернай музычнай класікі.

Слухацкая ўвага не магла абысці спалучэнне народна-традыцыйнай сутнасці і акадэмічнай вытанчанасці. Заўсёднікі канцэртаў ансамбля даўно ацанілі сутнасць, з якой апрацоўваюць і ўвасабляюць артысты народную песню. Заўважна чуйнасць да інтанацыйнай праўды ў кожным песенным жанры. Стылістычныя элементы скрупулёзна захоўваюцца. І рускія, працяглыя, — «Кабы Волга-Матушка», «Кольцо души девицы», і лірычныя — «Ах ты, душечка», «Хуторок» — у інструментальным варыянце не страчваюць першароднай прывабнасці. Так і з хуткімі ігравымі песнямі. Разам з захаваннем жанравых прыкмет у песнях "Як у нашым у сяле», «Лявоніха», «Эх сып, Сямён» назіраецца мноства элементаў імправізацыі, напеў набывае бліскучую канцэртную форму.

Творчы працэс квартэта неадлучны ад сусветнай музычнай класікі. Гэта прынцыповая эстэтычная ўстаноўка ансамбля. Музыканты маюць у сваім рэпертуары творы бадай усіх эпох. Тут музыка французскіх і італьянскіх клавесіністаў, І. Баха, В. Моцарта, П.Чайкоўскага, М. Мусаргскага, сучасных рускіх і замежных кампазітараў (А. Шнітке, А. П'яцолы), беларускіх (Я. Глебава, Г. Гарэлавай). Разам з тым у калектыве яны добра знаёмыя і з гісторыяй сусветнага выканальніцтва. Менавіта з яго кантэксту ўзрастала майстэрства народных музыкантаў. Цяпер выразныя сродкі свайго мастацтва творцы звязваюць з акадэмічнай выканальніцкай культурай, сфарміраванай на працягу многіх стагоддзяў. І адносіны да яе «народнікаў» такія ж адказныя, як і ў піяністаў і скрыпачоў. Ансамбль салістаў Ігара Іванова гэта яскрава прадэманстраваў. У філарманічным канцэрце кожная частка выкананых твораў пацвярджала інтэрпрэтатарскае майстэрства музыкантаў. У цыкле Чайкоўскага «Поры года» п'еса за п'есай неслі жыццёвыя ўражанні кампазітара: і пейзаж вёскі, і прастор рускіх палёў, і блізкія сэрцу моманты дамашняй утульнасці, і гулянні на масленіцу — усё набыло праўдзівае ўвасабленне.

Важная рыса стылю ансамбля — майстэрства лірычнага ўвасаблення. Гэта бачна ў цёплым раскрыцці шырокай мелодыі «Баркаролы» і асабліва ў псіхалагічным цэнтры цыкла «Асенняя песня».

Багацце тэмбравай палітры інструментаў і шматлікія прыёмы ігры дазволілі стварыць яркія музычныя і жывапісныя паралелі ў «Малюнках з выстаўкі». Музыканты вынаходліва перадалі вобразы ўсіх дзесяці частак сюіты.

Адметнае і візуальнае асвятленне твораў. Вобраз кожнага нумара цыклаў дапаўняўся малюнкам і паэтычным тэкстам на экране. Зліццё музыкі, паэзіі і жывапісу — поспех канцэрта.

**Валянцін ЧАБАН,**
**доктар мастацтвазнаўства,**
**прафесар БДАМ.**

## Класічнае

Кампазітара Роберта Шумана ўзгадаюць музыканты падчас камернага канцэрта ў Малой зале імя Рыгора Шырмы. Нагадаць пра яго творчасць — і выканаць творы — вырашылі ў сувязі з 160-годдзем з дня смерці.

Кампазітар-рамантык, які адстаяў права займацца музычнай творчасцю, цяпер прыцягвае глыбіняй і засяроджанасцю, канцэнтраванасцю думак, звароту да ўнутранага стану чалавека, а ён можа быць розным у залежнасці ад жыццёвых абставін. Іх перажываў сам Шуман, і творы распавядаюць пра гэта.

26 сакавіка адчуць Шумана дапамогуць піяністы Сямён Дзянісаў і Дзмітрый Зубаў (Санкт-Пецярбург), віяланчэлістка Ілона Лесь і валтарніст Павел Кузюковіч. Прагучаць, у прыватнасці, творы з фартэпіяннага цыкла «Дзіцячыя сцэны» і складаная для выканання шуманаўская такката. «Ранішнія песні» стаяць у ліку апошніх твораў кампазітара. Прагучаць таксама варыяцыі на тэму Роберта Шумана, створаныя Ёганесам Брамсам: кампазітары сябравалі.

## Папулярнае

Музычны шлягер, які доўгія гады з'яўляецца песеннай візітоўкай Беларусі, адзначае 80-годдзе. Песня «Бывайце здаровы!» была створана ў 1936 годзе кампазітарам Ісакам Любанам на словы Адама Русака. Доўгі час песня «Бывайце здаровы» лічылася народнай — з-за простых, але душэўных слоў і запамінальнай мелодыі. Калі яна гучала на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве, ёй зладзілі авацыю як твору беларускага народа…

Гэтай песні прысвяцілі асобную выстаўку ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У зале нотных і аўдыявізуальных дакументаў можна адкрыць рэальную гісторыю гэтай песні праз лёсы яе аўтараў. Тым больш сёлета ў сакавіку 110-годдзе кампазітара Ісака Любана. Да творчасці паэта-песенніка Адама Русака сёння ўсё часцей звяртаюцца нават сучасныя выканаўцы. На выстаўцы прадстаўлены зборнікі яго вершаў, ноты напісаных на іх песень. У наш час песня «Бывайце здаровы» перакладзена на розныя мовы свету.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Калі прылятаюць птушкі…

**Цікавая жывапісная праца — роспіс на сцяне — знаходзіцца ў 7-й гімназіі горада Мінска. Тут адлюстраваныя традыцыйныя беларускія святы, прынамсі, гуканне вясны. Менавіта вясна бачылася нашым продкам святам яшчэ часу паганства, якое традыцыйна суправаджаецца песнямі і карагодамі. Людзі праганялі зіму, радаваліся першаму вясноваму сонцу…**



— Гэта была сцяна 5 на 7 метраў. Такая прастора! Мне адразу захацелася ўвасобіць на ёй беларускія народныя святы. Сам гэты рух у мастацтве выяўленчым, мастацтве самадзейным, мастацтве наогул быў нейкім уздымам на пачатку 90-х. І роспіс, створаны 25 гадоў таму, дагэтуль існуе ў гімназіі № 7, але толькі першая частка вялікай задумы. Намаляваны Каляды і гуканне вясны, а на супрацьлеглай сцяне яшчэ павінна было быць Купалле, — гаворыць аўтар мастак Алесь Квяткоўскі.

У гэтай школе ў мастака была база, дзе ён ствараў разам з дзецьмі. Маецца на ўвазе 1991 год, час, калі ўсе ўспомнілі, што беларусы. Яму прапанавалі зрабіць роспіс, і назапашаны вопыт акрэсліўся ў гэтай працы.

— Мой дыплом у школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве (зараз школа імя Ахрэмчыка) называўся «Танцы ў вёсцы», — тлумачыць Алесь Квяткоўскі. — Я нярэдка ездзіў да сваіх аднакласнікаў і аднойчы апынуўся ў вёсцы Будча Ганцавіцкага раёна. Вечарам мы ішлі па цэнтральнай плошчы, убачылі, як з поля вяртаюцца стомленыя працаўнікі. А тут, на плошчы, іграе барабан, гармонік, скрыпка. Яны пакідалі свае граблі, косы і гадзіну-дзве скакалі пад музыку. Гэта было адкрыццё.

Для мяне і маёй сям'і таксама моцнае ўражанне пакінула свята песні ў Вільні ў 1985 годзе. Дзесяць тысяч чалавек спявалі, тысяч сто стаялі ў парку. Хоць надакучваў дождж, але ўсё роўна ўсе спявалі. А на трэці дзень было свята танца. Больш за ўсё ўразіла, што пачыналі дзеці 5-6 гадоў, а потым у малюнак танца ўпляталіся старэйшыя. А скончылі свята танцам сталых людзей. Іх народныя вопраткі — мастацтва. Мы ведаем, што кожны раён той жа Літвы мае і свой малюнак, і сваю афарбоўку верхняга адзення. Тая вопратка, якая ў маіх герояў на роспісе, — з гісторыі, з народнай творчасці. Усё гэта пра тое, адкуль ідзе наш род.

У 1988 годзе на Палессі я рабіў сграфіта. Зайшоў там у краму і набыў кніжку «Вянок беларускіх народных песень». Калі прыйшоў працягваць рабіць свой манументальны твор, напаткаў прыбіральшчыц (рыхтавалі школу да новага навучальнага года). І я з гэтай кніжкай, кажу ім: «О! Бачыце, а тут жа ёсць такая вось песня...» — «Дык гэта ж, кажуць, нашая песня!» І ўсе, колькі іх там было, пачалі спяваць. Вось тое, што павінна цячы праз пакаленні.

Сёлета ў мастака Алеся Квяткоўскага атрымалася трапіць у тую самую школу, дзе знаходзіцца яго роспіс: ён праводзіў адкрыты ўрок з вучнямі 9-х класаў. Шмат пытанняў у школьнікаў было і пра гэты роспіс, і пра гісторыю наогул.

— Мяне вельмі ўзрадавала, што работа засталася. Цяпер праз пяць, дзесяць год робяць рамонты. І твор могуць парушыць ці знішчыць. Тым больш, што гэта жывапіс, і яго вельмі проста зараз закатаць алеем ці акрылам. Але роспіс жыве. Колькі за гэты час гадавалася дзяцей? Няхай толькі адзінкі звярталі ўвагу на роспіс, некаторыя бацькі. Але гэта тое, што амаль незаўважна застаецца ў памяці назаўсёды. За ўвесь час там знаходзіліся піянерская комната, потым — мая студыя выяўленчага мастацтва, яшчэ пазней — тэатральная ці танцавальная студыя, зараз зноў піянерская комната, ужо сучасная. Усё роўна гэта месца сустрэч: з людзьмі, з вясной, з надзеяй. Роспіс не штучны, зроблены шчыра, што адлюстравана ў канкрэтных вобразах.

**Гоя СЕМІРЭНКА**



## Культурны ракурс

Падароск — невялікая вёска ля ракі Зальвянка, што ў Ваўкавыскім раёне на Гродзеншчыне. Ёсць тут сярэдняя і музычная школы, дашкольная ўстанова, амбулаторыя, Дом культуры, бібліятэка, пошта... А яшчэ — адметны помнік культуры, дзеля якога варта наведаць Падароск, — пабудаваная ў сярэдзіне XIX стагоддзя сядзіба Чачотаў (Бохвіцаў). На тэрыторыі сядзібы захаваўся жылы дом плошчай 120 кв. м, брама і аранжарэя. Помнік архітэктуры даўно патрабуе рэстаўрацыі. Будзем спадзявацца, што аднаўленне сядзібы ўсё ж такі пачнецца, а вынікі не папсуюць веліч і харaство гэтага цудоўнага архітэктурнага ансамбля.

**Яўгенія СТАРЫКАВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 24.03.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1935.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 984

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686